PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 36 (2156) Год XLII | Беласток 7 верасня 1997 г. | Цана 1 зл.



*Фота Уладзіслава ЗАВАДСКАГА*

# Пікнік пад грушай

Алег Латышонак

**Пікнік пад сапраўднай грушай адбыўся над вадасховішчам Бахматы ў Дубічах-Царкоўных у апошнюю нядзелю жніўня. Арганізавалі яго Беларускі сяюз і Гмінны асяродак культуры. Такім чынам афіцыйна адкрыў сваю выбарчую кампанію Яўген Вапа, старшыня БС, які балатуецца са спіска Уніі працы.**

**У гэты самы дзень у Дубічах завяршыўся I Мотадэльтапланёрны уікэнд пілотаў і журналістаў. Журналісты беластоцкіх газет, радыё і тэлебачання знаёміліся з праблемамі самаўрадаў у Супраслі, Нарве, Кляшчэлях і Дубічах.**

Гміна Дубічы-Царкоўныя — гэта мой улюбёны куток Беластоцкай зямлі. Нідзе так не спалучаецца хараство прыроды з жывой беларускай гісторыяй. На ўскраіне Белавежскай пушчы жыве народ свабодалюбівы і дабрамужны, які стварыў уласную традыцыю змагання за беларускую справу. Тут яшчэ на пачатку нашага стагоддзя гуртаваў беларусаў Іван Краскоўскі, сын дубіцкага настаяцеля. Сыны членаў яго арганізацыі партызанілі пад камандаваннем „Скамароха".

Усё ж такі сёння няўмольна стае пытанне: ці са смерцю апошніх старэчаў, якія помняць беларускіх партызанаў, не абарвецца жывая повязь пакаленняў? Гісторыя запісаная, і яна застанецца, але адкуль узяць жывых носьбітаў традыцыі.

З Чэхаў-Арлянскіх у „Скамароха" было каля дваццаці хлопцаў. Сёння з гэтай вёскі ў школу не ходзіць ніводнае дзіця. У славутым Грабаўцы засталося 120 дамоў. У палове з іх жывуць толькі адно-двое старых людзей. Ва ўсёй гміне памірае ў год 100 людзей, а нараджаецца 10-15.

Гэтых, што яшчэ змагаюцца за тое, каб іхняя зямля не памерла, ахоплівае ціхая роспач. Відаць гэта было на прэс-канферэнцыі, падчас якой аб праблемах гміны з журналістамі гутарылі войт Анатоль Паўлоўскі і старшыня Гміннай рады Сяргей Нічыпарук. Прабавалі яны растлумачыць журналістам, чаму гміна не можа гаспадарча скрануць з месца. З увагі на кепскія глебы і бязлюднасць тэрыторыі тут немагчыма развіць ні сельскую гаспадарку, ні, тым больш, прамысловасць. Ніякі разумны бізнесмен не пабудуе тут ніякага завода. Адзіным шанцам з'яўляецца развіццё турызму, але зрабіць гэта самастойна гміне не пад сілу.

Журналісты са свайго боку хацелі ўпэўніцца, ці гміна сапраўды вычарпала ўсе свае магчымасці. Самараўднікі лёгка збівалі ўсе аргументы журналістаў. Прадаваць білеты на Бахматы. А за што пабудаваць плот, на які трэба 1 мільярд старых злотых. Зрабіць буклет? А скуль узяць паўмільярда на гэта? Доўга так дыскутавалі, але журналісты не здолелі выдумаць нічога, аб чым дубіцкія ўлады не падумалі раней, не спрабавалі зрабіць.

Сяргей Нічыпарук сказаў адкрыта: „Тое, што тут адбываецца, гэта забойства нашай зямлі, альбо наўмыснае, або з ляноты. Гэтая зямля пэўне ж калісьці зноў заселіцца, але ўжо іншымі людзьмі, чым тыя, якія тут жывуць. Цяпер тут своеасаблівая культура. Яе трэба ахоўваць таксама як пушчу. Тым часам ніхто з саноўнікаў не кажа аб тым ні слова. Няма ні праекта, ні ахвоты".

Каб захаваць комплексна гэтую тэрыторыю разам з яе прыродай і культурай, неабходная ўрадавая праграма. Перш за ўсё тычыцца гэта падтрымкі патэнцыяльных інвестараў, хаця б у падаткавых палёгках, і грошай на шырокамаштабную прамоцыю турызму. А дагэтуль ніхто гміне не памагае. Не споўніліся ні абяцанкі паслоў стварыць план ажыўлення „Усходняй сцяны", ні міністра Жаліхоўскага, які абяцаў за-

[працяг ☞ 3]

## У нумары

# Мы прачыталі

*Polacy kochają się w dresach. Dres stał się mundurem „żołnierzy" gangów podwarszawskich, a w Białostockiem i na Podlasiu noszą go fani disco polo. W Warszawie chodzą w nim fani muzyki disco. Agresywni szpanerzy zwani są „dresiarzami", „dresmanami", albo po prostu „dresami". „Dresmani" przychodzą na dyskoteki w grupie, nigdy pojedynczo. Zazwyczaj krótko obcięci, „napakowani". Ale oni nie uprawiają sportu, tylko chodzą na siłownię. Lubią nosić skórzane kurtki. Oprócz dresu mają na sobie dużo złota. Całe społeczeństwo mają gdzieś. Są agresywni i aroganccy. Moda ta przyszła ze Wschodu. Władza radziecka krzewiąc kulturę fizyczną chciała wszystkich ubrać w dresy. Ten ubiór był tam dość powszechny. Obecnie obwieszani złotem kolesie w dresach to ubrani w mundury „rekietierów" żołnierze mafii. Polakom spodobał się ten sowiecki luz i sposób bycia.*

*Życie, nr 188*

* * *

*Ulubionym sportem narodowym Polaków jest praca zarobkowa na czarno, przy jednoczesnym odbieraniu „kuroniówki".*

*Kurier Poranny, nr 189*

* * *

*Szowinizmem i absurdem powiało podczas prezentacji kandydatów do Sejmu Bloku dla Polski. — Apeluję do wszystkich mniejszości narodowych: bądźcie Polakami — przemawiał Andrzej Fedorowicz, prezes białostockiego okręgu Stronnictwa Narodowego. Teresa Wiszowata z Federacji Ruchów Obrony Życia chwaliła się: Prowadzę pogadanki z młodzieżą o naturalnych sposobach rozmnażania się, tak jak to było z dziada pradziada. Bartosz Taylor, student ekonomii i prawa Filii UW chce, aby czynne prawo wyborcze obowiązywało od urodzenia do śmierci, a za dzieci powinni głosować ich rodzice.*

*Gazeta w Białymstoku, nr 188*

* * *

*Dziś polityk lokuje się nisko w rankingach popularności zawodów.*

*Kurier Poranny, nr 189*

* * *

*Kościół katolicki uważam nie za wyznanie, lecz zbiurokratyzowaną strukturę polityczną. To, że Bóg jest przez ludzi odrzucany, jest moim zdaniem, „zasługą" Kościoła, który skutecznie potrafi zohydzić religię,* — сказаў Казік Сташэўскі, музыкант.

*Polityka, nr 33*

* * *

*Łukaszenko szuka skarbu Radziwiłłów. Wysłannicy Łukaszenki kopią w piwnicach pałacu w Nieświeżu. Próbują odnaleźć skarb Dominika Radziwiłła — 12 figur apostołów wielkości człowieka ze szczerego złota. Figury były ozdobą pałacu i zostały skrzętnie ukryte na początku XIX wieku.*

*Życie, nr 188*

У Беларусі гаворыцца, што ў палацы Радзівілаў неўзабаве будзе рэзідэнцыя Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі. Ён таксама хацеў бы, каб залатыя апосталы цешылі яго вочы, так як калісь Радзівілаў.

* * *

*Na Białorusi trwa polowanie na dziennikarzy rosyjskich. W sierpniu białoruskie władze aresztowały siedmiu pracowników rosyjskiej TV ORT. — Myślę, że naszego braciszka z Mińska (Лукашэнку — рэд.) już całkiem poniosło. Bo jeśli zlekceważył naganę starszego brata — prezydent Jelcyn po aresztowaniu Pawła Szeremieta skrytykował Łukaszenkę — naprawdę trudno przewidzieć, co mu jeszcze strzeli do głowy. Wystarczy zagrozić wstrzymaniem gazu i Łukaszenko się uspokoi. Chociaż nie można wykluczyć, że ten paranoik zareaguje inaczej. Ktoś nazwał go dyrektorem sowchozu, który się zbiesił. To bardzo precyzyjne sformułowanie definiujące Łukaszenkę — pisze zastępca redaktora naczelnego tygodnika „Moskowskije Nowosti" Aleksander Kabakow.*

*Gazeta Wyborcza, nr 193*

* * *

*Czas pokazał, że impreza Kupalle w Białowieży nie wytrzymała próby czasu. Byliby bardzo zdziwieni nasi przodkowie Słowianie, że ich święto przybrało tak dziwną formę. Przy huku petard, piwie i dymiących grillach przyszło się obejrzeć kilkanaście amatorskich folklorystycznych zespołów białoruskich. To ostatnie jest kontrowersyjne, usłyszeliśmy bowiem oprócz białoruskich, piosenki ukraińskie i rosyjskie. Nie ceremonia wianków była najważniejsza, ale hasła wyborcze i ulotki. Oto przekonaliśmy się, że dawni Słowianie Kupalle wykorzystywali do mityngów wyborczych. Tym razem SLD.*

*Głos Białowieży, sierpień 1997*

* * *

*Wyborów do Sejmu czy Senatu nie wygrywają ci najmądrzejsi i najbardziej szlachetni, lecz najbardziej znani. Przeciętny wyborca to nie intelektualista, lecz prosty chłop ze wsi „X" lub „Y", który nie czyta gazet, a jego opinię kształtuje telewizja. To nie programy publicystyczne, lecz częstotliwość pojawiania się danego człowieka decyduje o sukcesie. Wybory to nic innego jak próba sprzedania towaru, który nazywa się poseł. Praktycznie wszystko zależy od opakowania, a nie od tego, co jest w środku.*

*Kurier Poranny, nr 194*

Таму кожны Сейм ёсць такі, які ёсць. Шкада паперы.

# З мінулага тыдня

**Згуртаванне Краёвы клуб рэпартажу** — агульнапольская арганізацыя рэпарцёраў — ухваліла праэст у сувязі з жорсткім рэпрэсіраваннем у Беларусі рэпарцёраў мясцовых і замежных сродкаў масавай інфармацыі. Згуртаванне такім чынам пратэстуе супраць арыштавання расейскіх тэлежурналістаў. „Не будзем абыякава ставіцца да гэтага тыпу практык, якія маюць усялякія рысы псіхапаталагічных паводзін улады. Заклікаем айчынных і замежных журналістаў, а таксама міжнародныя арганізацыі аказваць пры пасрэдніцтве сродкаў масавай інфармацыі прэсінг на ўлады Беларусі, пакуль не пачнуць яны прытрымоўвацца прынцыпаў свабоды слова і не спыняць праследавання прадстаўнікоў мас-медыяў", — напісана ў заяве.

**Беларуская філалогія** як новы напрамак студыяў будзе адкрыта на самастойным Універсітэце ў Беластоку, — заявіў рэктар праф. **Адам Ямруз**. На Гуманітарным аддзяленні колішняга Філіяла ВУ ад чэрвеня г.г. існуе Кафедра беларускай культуры. Між іншым на гэтай базе будзе ствараццa беларуская філалогія. „Хочам, каб не была гэта толькі даследчая кафедра. Трэба яе ўключыць у дыдактычны працэс", — дадаў прафесар.

**Мітрапаліт Лісабона і ўсяе Партугаліі Іаан** пабываў у Беластоку па запрашэнні архіепіскапа Беластоцкага і Гданьскага **Савы**. У ходзе душпастырскага візіту мітрапаліт Іаан, супольна з архіепіскапам **Іаакавам** і епіскапам **Веніямінам**, якія спадарожнічаюць свайму партугальскаму першаіерарху, наведалі беластоцкія прыходы і Супрасльскі манастыр. Першыя праваслаўныя прыходы ў Партугаліі ўзніклі ў пачатку 60-х гадоў нашага стагоддзя. Праваслаўная царква ў гэтай краіне налічвае каля 40 тысяч вернікаў, дзеліцца на 6 епархій і ўваходзіць у састаў Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы.

**Ваяводскі саюз сялян, гурткоў і сельскагаспадарчых арганізацый** апублікаваў заяву, у якой паведамляе сваіх членаў, што „ў выніку глыбокага аналізу і ўсебаковых кансультацый адмовіўся ад магчымасці самастойна вылучыць кандыдатаў на выбары ў Парламент РП". Гэтая прафсаюзная арганізацыя заклікае сялян Беласточчыны масава пайсці на выбарчыя ўчасткі і аддаць голас „за найлепшых земляробаў — тых, якіх ведаем і шануем за паслядоўнае і паспяховае дзеянне, надзвычайную волю барацьбы, за бескарыслівасць і клопат пра супольную справу (...), на тых, якія ўмеюць разумна выращаць і належна нас прадстаўляць".

**Трансфарматары** ў Беластоцкім ваяводстве падвяргаюцца бязупыннаму абкраданню. Толькі ад месяца мая г.г. злодзеі ўкралі медную абмотку з шаснаццаці такіх апаратаў. Аматары каляровых металаў абкрадаюць пераважна энергетычныя ўстаноўкі, якія заманціраваны далёка за вёскамі, на калёніях. Найчасцей прападаюць медныя праваднікі з трансфарматараў між Кнышынам і Гарадком. Па гэтай прычыне Беластоцкі энергетычны раён затрачвае вялікія грошы — адзін трансфарматар каштуе ад 3 да 100 тысяч зл.

**Спякота і суша** ў канцы жніўня былі прычынай многіх пажараў. Найчасцей гарэў высушаны лясны подсціл. У Беластоцкім ваяводстве пажарнікі тушылі лясныя пажары між іншым у Гайнаўцы, у гмінах Кузніца-Беластоцкая, Дубрава-Беластоцкая, Гарадок і Міхалова. Такая сітуацыя прымушае некаторыя беластоцкія надлясніцтвы прымаць рашэнні аб забароне ўваходу ў лес.


## Неўзабаве ў „Ніве"

- **Як заплаціць за пакуты?** — размова з віцэ-старшынёю Таварыства пацярпелых ад III Рэйха.
- **Мова дзяцей і моладзі ў беларускіх сем'ях** — назіранні Аляксея Мароза.


# Весткі з Беларусі

**Воля для журналістаў**

Старшыня Дзяржаўнай Думы Расеі Генадзій Селязнёў прыляцеў у Менск і сустрэўся з прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам, у выніку чаго былі вызвалены чатыры расейскія журналісты. У турме засталіся трое беларускіх грамадзян: Павел Шэрэмет, Дзмітрый Завадскі і Уладзімір Косцін (апошняга выпусцілі чатыры дні пазней). Дзень раней аб вызваленні журналістаў з прэзідэнтам размаўляў пасол РФ Валерый Лашчынін, але гэтую гутарку, як паведаміла афіцыйнае радыёвяшчанне, „азмрочыла заява прэссакратара прэзідэнта РФ Сяргея Ястржэмбскага", які ў катэгарычным тоне патрабаваў неадкладна вызваліць супрацоўнікаў ОРТ. Селязнёў падтрымаў Лукашэнку, які абвінавачвае ОРТ у „вядзенні інфармацыйнай вайны супраць Беларусі".

**Дзіцячая асацыяцыя**

Беларускі патрыятычны свюз моладзі і Беларуская рэспубліканская піянерская арганізацыя, якія заключылі дагавор аб супрацоўніцтве, звярнуліся да ўсіх дзіцячых аб'яднанняў рэспублікі з прапановай стварыць асацыяцыю дзіцячых школьных аб'яднанняў. Зараз школьныя грамадскія арганізацыі працуюць разрозненa, не маюць належнай метадычнай базы і такім чынам значна абмяжоўваюць сваю сацыяльную дзейнасць. Аб'яднанне на аснове агульнасці інтарэсаў і метадаў дзейнасці прынясе толькі карысць і дапаможа забяспечыць сацыяльную абарону дзяцінства.

**Узорнае выхаванне**

Беларусь — адна з нямногіх краін СНД, дзе здолелі захаваць асновы ваенна-патрыятычнага выхавання моладзі. Гэта адзначалася практычна ўсімі ўдзельнікамі круглага стала, які праходзіў у Менску. У ім прымалі ўдзел прадстаўнікі ваенных ведамстваў Расеі, Беларусі, Казахстана і Грузіі. Удзельнікі семінара пазнаёміліся з практыкай выхаваўчай работы ў 120 дывізіі і адной з сярэдніх школ Жодзіна.

**Баявыя стрэльбы**

Беларускія сілы супрацьпаветранай абароны паспяхова закончылі чарговыя баявыя стрэльбы на расейскім палігоне ў Астраханскай вобласці, які праводзіліся ў адпаведнасці з пагадненнем міністэрстваў абароны Расеі і Беларусі. У ходзе стрэльб выкарыстоўваліся зенітныя ракетныя комплексы, у тым ліку сучасныя С-300. Усе запушчаныя на палігоне расейскімі сіламі супрацьпаветранай абароны мішэні былі знішчаны беларускімі разлікамі.

**Шынны імпарт**

Дагавор на пастаўку буйной партыі шын на 509 тыс. дол. ЗША заключыла адна з польскіх фірм з Беларускім шынным камбінатам. Увесь гэты аўтамабільны „абутак" прызначаны для 30—40-тонных грузавікоў „Белаз", якія працуюць у Польшчы.

**Археалагічная выстаўка**

28 жніўня ў Нацыянальным музеі гісторыі культуры Беларусі адкрылася выстаўка „Ля вытокаў беларускай археалогіі. Памяці рэпрэсіраваных археолагаў прысвячаецца". У экспазіцыі прадстаўлены рэчы з археалагічных раскопак 20-х гадоў Ляўдацкага, Палікарповіча, Шутава і іншых вучоных, рэдкія фотаздымкі, кнігі і часопісы 20—30-х гадоў з працамі па археалогіі Беларусі, дакументы аб дзейнасці Археалагічнай камісіі Інбелкульта і прыватныя дакументы.

**Баранавіцкая ВНУ**

У Баранавічах з'явілася вышэйшая навучальная ўстанова. З 1 верасня пачаў весці падрыхтоўку спецыялістаў філіял Беларускай політэхнічнай акадэміі. Першымі студэнтамі сталі 60 абітурыентаў. Для функцыянавання філіяла мясцовая вертыкаль пад вучэбны корпус выдзеліла адміністрацыйны будынак, інтэрнат для студэнтаў і памяшканні для ўладкавання быту выкладчыкаў.

**Абакралі камуністаў**

Бланкі партыйных дакументаў, штампы і 160 тысяч рублёў выкрадзены са штаб-кватэры Камуністычнай партыі Беларусі ў Бабруйску. Невядомыя злачынцы ўзламалі чацвёра дзвярэй штаб-кватэры і ўскрылі дзве металічныя скрыні з партыйнымі дакументамі, штампамі і грашыма. Злодзеі вынеслі з памяшкання таксама тэлефон і ксеракс.

# Бездапаможныя кашалёўцы

Кашалі — самая вялікая вёска ў Арлянскай гміне, старэйшая за само мястэчка. Жыве тут 321 жыхар. Сяляне крыўдуюць, што гмінныя ўлады не адводзяць належнай увагі іхным праблемам, а галоўным чынам не даводзяць да канца рамонту вясковай вуліцы. Асфальт быў пакладзены толькі на кавалку дарогі ў сярэдзіне вёскі і абрывацца ён каля крамы. Далей цягнецца стары брук. Людзям абяцалі, што рамонт будзе закончаны, але ў сёлетніх гмінных планах гэта не прадугледжана. Будова і рамонты дарог запланаваны ў іншых мясцовасцях, напрыклад у Вульцы-Выганоўскай, Маскоўцах ці Рыгораўцах, але не ў Кашалях.

Кашалёўскі солтыс **Павел Галоўня**, які ўжо дзесяць гадоў узначальвае вёску, наракае на супрацоўніцтва з войтам. Прыгадвае, што раней солтысы запрашаліся начальнікам гміны на нарады ці сесіі, дзе можна было прадставіць праблемы сваёй вёскі, дамовіцца наконт іх вырашэння.

— Наша вёска налічвае звыш дваццаці гаспадарак, — расказвае солтыс, — у тым ліку дзве спецыялістычныя. Адзін з гаспадароў мае ўжо 250 гектараў зямлі. Добрая дарога ў вёсцы — гэта проста неабходнасць. Адзіны выхад — адысці з гэтага балагану да іншай гміны, але мы, на жаль, не мяжуем з Бельскам, як хаця б Крывая. Намерваюся з жыхарамі вёскі за свой кошт зрабіць двухметровай шырыні асфальтавую сцежку да могільніка, каб можна было пакойніка належна правесці ў апошнюю дарогу. На раднага і войта нельга спадзявацца.

Людзі незадаволены таксама і тым, што кашалёўскі радны Мікалай Валасовіч не дбае пра справы вёскі, не выступае на сесіях з канкрэтнымі прапановамі, не інфармуе аднасяльчан аб працы Гміннай рады. І хаця статус раднага вышэйшы за солтыса, вяскоўцы з усімі справамі звяртаюцца да Паўла Галоўні. „Навошта нам такі радны і такі войт?" — разважаюць, бездапаможна апускаючы рукі, жыхары Кашалёў.

**Міхал Мінцэвіч**

# Пікнік пад грушай

[1 ☞ *працяг*]

латыя горы за згоду на пашырэнне Нацыянальнага парку ў Белавежскай пушчы.

Стварэнне і ажыццяўленне ўрадавай праграмы дапамогі для ўсходняй Беласточчыны мае ў сваёй выбарчай праграме **Яўген Вапа**, старшыня Беларускага саюза, які балатуецца ў Сейм са спіска Уніі працы. Нарадзіўся ён у Дубіцкай гміне, дык нічога дзіўнага, што тут афіцыйна адкрыў ён сваю выбарчую кампанію. Пікнік наведаў таксама **Ян Тапалянскі**, кандыдат у сенатары ад Беларускага дэмакратычнага аб'яднання. Выбарчы „Пікнік пад грушай" прыцягнуў шматтысячны натоўп людзей з наваколля, а таксама з Бельска і Гайнаўкі. Надвор'е было як па заказу. Выступілі бельскія калектывы „Маланка", „Дзявочыяноткі" і рок-гурт „Eine Klakson". Можна было таксама заваяваць узнагароду ў шматлікіх конкурсах. Яўген Вапа выйграў конкурс на выпіванне піва праз саломку. Пасол ад УП Артур Смулка змагаўся ў з'яданні гарбуза, але прайграў апошні тур. Мне найбольш спадабалася збіванне бялкоў з яйка. З трох жанатых мужчын, якія выступілі ў гэтай канкурэнцыі, ніводзін не дадумаўся, што трэба раней аддзяліць жаўток. Усё такі аднаму з мужоў удалося збіць цэлае яйка.

Вялікім атракцыёнам былі мотадэльтапланы, раней тут не бачаныя. Пілоты бесканечна паяснялі цікаўным усе тэхнічныя асаблівасці сваіх машын. На жаль, вецер не дазволіў пілотам вазіць пасажыраў. Можна было толькі пагойдацца на сімулятары палётаў. Усё ж такі сам старт некалькіх машынаў — гэта сапраўднае відовішча.

У апошнюю жнівеньскую нядзелю над Бахматамі было амаль удавая больш людзей, чымся жыхароў гміны. Каб гміна жыла, такую колькасць людзей трэба было б прыцягваць стала, ды не толькі ў летні сезон. Выбары пакажуць, каму з палітыкаў тутэйшыя людзі дадуць шанц дбаць пра іхныя справы.

**Алег Латышонак**

# У Бельску і ў Чаромсе

Ужо ад нейкага часу вырашыў я ездзіць за справункамі ў Бельск-Падляшскі. Там намнога менш каштуюць гародніна, фрукты, хлеб, мяса. Калі 500-грамовы бохан хлеба ў нашых кляшчэлеўскіх крамах каштуе 0,75 зл., у Бельску з аўтамабіля можна купіць 600 гр. хлеба за 0,70 зл. Калі памідоры ў Чаромсе прадаваліся па 2,80 зл. за кілаграм, у Бельску не горшыя я купляў па 1,50 зл. Фрукты, бульбу, цыбулю таксама на бельскім рынку таней купіць можна ад 30 да 60 грошаў.

Зрабіўшы агульны падлік усіх справункаў можна сказаць, што ў адзін раз зберагаецца каля дваццаці злотых. Гэта многа як на мае магчымасці.

Хачу прытым сказаць, што выбар тавараў на бельскім рыначку багацейшы ды і культура абслугоўвання зусім іншая.

У Чаромсе, напрыклад, гандляры ўвялі звычку, што дэкаграм лішняга не прыкінуць. Ды і за кожны грош сцяной стаяць. У Бельску заўсёды накідаюць лішняе на ўпакоўку. Як мне стала вядома, некаторыя бельскія гандляры штодзень едуць ў Чаромху прадаваць, хоць рынак знаходзіцца за вакном іхняй хаты. Відаць з таго, што калькуляцыя ў тым нядрэнная.

А цяпер наконт продажу свежага мяса на чаромхаўскім рынку. Бачыў я сам неаднойчы як такі тавар прадаецца ў летнюю пару. Мухаўні не адгонішся! Поўзаюць быццам чарвякі па кавалках мяса. А пасля такое ж мяса прыватнік прадае чалавеку. Дзе санэпідэмстанцыя і паліцыя? Дзе мясцовы самаўрад? Гэту праблему прад'яўляў я неаднойчы кіраўніку кляшчэлеўскай масарні і адказным чыноўнікам. Але ніхто не слухае. Няўжо ж так быць павінна?

На маю думку, законы абавязваюць нас усіх. Толькі прытрымоўвацца іх трэба.

**(ус)**

# Бярыце справу ў свае рукі

У Кляшчэлях, побач чыгуначнай станцыі, знаходзіца збожжавы элеватар бельскіх ПЗЗаў, які зараз арандуе прыватны прадпрымальнік. У жнўні пачаў ён весці скупку збожжа па заказу Агенцтва сельскагаспадарчага рынку ў Сувалках. Зараз кожны дзень перад складамі выстройваецца чарга падводаў. Сяляне, не дачакаўшыся карыснейшых умоў для збыту сваіх пладоў (чакалі на большыя цэны), пачалі пазбывацца мінулагодніх запасаў.

Ехаў я 19 жніўня ў Беласток. Спадарожнічалі мне знаёмыя пенсіянеры з Чаромхі Янка Д. і Грыша М. Праязджаючы кляшчэлеўскую станцыю, мы ўбачылі доўгую чаргу трактароў з прычэпамі.

— Гляньце якая чарга, — загаварыў Янка Д. — Чалавек прадае збожжа за бясцэнак. Ці гэта магчыма, каб зараз цэнтнер аўса каштаваў 22 зл.? Я ў гэтым годзе за камбайн заплаціў 400 зл. Колькі мне трэба прадаць зерня, каб вярнуць сабе гэтыя грошы? Мала таго, кладаўшчык бярэ сабе 17% з кожнага цэнтнера (значыць, 17 кілаграмаў), а табе толькі плаціць за 83 кг.

— Навошта бяруць скідку? — пытаю.

— 15% быццам бы за нячыстае збожжа, а 2% кладаўшчык бярэ сабе на выпадковую нястачу, калі памыліцца, — паясняе суразмоўца.

— І бачыце, колькі ён сабе лупіць? Пры камуне так не кралі. Праўда, і тады 3% скідкі было. Аднак, што тры, гэта не семнаццаць. А пасля выпісвае такі хітрун квітанцыі на сваіх знаёмых і грашамі кішэню набівае. Ведаю такіх! Пры камуне я ніколі не здаваў збожжа ці бульбы, бо меў знаёмага кладаўшчыка, які ўсе пакрываў за мяне...

— Так-то зараз справа маецца ў нашай дэмакратыі, — сумна канстатуе пенсіянер. — Злодзей на злодзеі едзе. З вярхушкі прыклад людзі бяруць. Паступаюць паводле Валэнсы, які сказаў: „Бярыце справу ў свае рукі..." І гэтыя паразіты бяруць. Не ведаю толькі, як яшчэ доўга.

**Уладзімір Сідарук**

# Турысты і нябесная манна

Усё часцей і з розных вуснаў чуем, што ўсходняя Беласточчына павінна шукаць паратунку ад эканамічнай дэградацыі ў турызме. Аднак, наўрад ці ад чаго-небудзь уратуемся, калі будзем так дбаць пра патэнцыяльных турыстаў, як Белавежа — што б ні казаць, наша жамчужына — дбае пра тых, якія ўжо ёсць.

Адно з больш цікавых месцаў тамака — гэта паказны запаведнік зуброў. Створаны ён на даволі вялікай пушчанскай паляне перад уездам у Белавежу з галоўнай, гайнаўскай шашы. Можна ў ім паглядзець не толькі караля пушчы, але і тарпанаў, лосяў, аленяў, сарнаў, дзікоў, ваўкоў, і крыжаванку быка з зубрыцай — жуброня. Прычым звяры там не сядзяць у цесных клетках, як у заапарку, а ходзяць па вялікіх загарадах, ва ўмовах набліжаных да свабоды.

Але дабрацца да запаведніка з шашы — справа нялёгкая. Лясная гравійка да таго выбітая, што легкавой машынай уязджаць на яе страшна. Яма на яме, выбоіна на выбоіне. Аказваецца, засыпаць ямы, выраўняць дарогу не так і проста, а гэта таму, што запаведнік з'яўляецца часткай Белавежскага нацыянальнага парку, а дарога ідзе праз тэрыторыю Белавежскага надлясніцтва. Парк не можа рамантаваць не сваю дарогу, а надлясніцтву ў сваю чаргу непатрэбна дарога ў парк. Тупік. Можа хоць нейкі трактар знайшоўся б, які давозіў бы турыстаў з шашы, каб не ламалі яны восей у сваіх аўтамабілях? Каб было ж на чым прыехаць у Белавежу другі-трэці раз.

Справа з харчаваннем таксама дрэнь. А вядома ж, як здаровае лясное паветра ўздзейнічае на страўнік!

У „Іве" есці не рэкамендую. Вясною меў я нагоду харчавацца там на працягу тыдня, дык магу гэта сцвердзіць з поўнай адказнасцю. Порцыі страваў малыя, нясмачныя, часта халодныя. Абслуга павольная — у адну з летніх нядзель давялося мне чакаць халодных напіткаў (не нейкай там гатаванай стравы!) каля гадзіны. Да таго рэстаран, як і ўся імпазантная калісьці гасцініца, рассыпаецца. Бяда і гора. Але цэны — уключна з прыбіральняй — о-го-го!

Не пашчасцілася мне ў тую самую нядзелю з'есці і ў „Жуброўцы". Была яна проста зачынена. Уявіце сабе: турыстычная мясцовасць, сонечная летняя нядзеля і зачынены рэстаран! Калі ж ён мае на сябе зарабляць?

Наша кампанія пасля гэтых няўдач падалася яшчэ на вуліцу Вашкевіча, у пансіён „Унікат", які рэкламуецца вялікай шыльдаю зараз за ўездам у Белавежу. Але і тут — як чытач можа ўжо дадумацца — параза. Ці то абедала там нейкая экскурсія, ці то мясцовая знаць сарганізавала сабе банкет, але з вуліцы нікога не пускалі.

Далей шукаць не было ўжо ні ахвоты, ні сілы.

Турысты — гэта не нябесная манна. Самі з неба не пасыплюцца толькі таму, што яны нам назарэз патрэбны. Трэба іх, бы тую рыбу ў вадзе, прынадзіць. Адным словам, дапамагчы можам толькі самі сабе. Гэтых некалькі прыкладаў з Белавежы, на жаль, падкопваюць маю веру ў хуткае наша эканамічнае выратаванне турызмам.

**Мікола Ваўранюк**

# Нервовае жніво

Жнівень гэтага года прынёс хлебаробам сухое, гарачае надвор'е. Такая пагода спрыяе жніву. Асабліва добра збіраць збожжа камбайнам. Цяпер мала хто хоча традыцыйна калоць аб салому рукі, ды яшчэ потым малаціць. Камбайн хоць і дарагая, але выгадная машына.

На жаль, у Нараўцы невялікая тэхніка! Нараўчанская база СКР мае ўсяго 3 камбайны, прытым адзін сапсаваўся так, што ўсё жніво не выходзіць у поле. Ёсць у гміне і 3 прыватныя камбайны, але яны ў першую чаргу малоцяць на сваіх гаспадарках і суседзям.

У такіх абставінах дачакацца камбайна вельмі цяжка. Гаспадары кожны дзень нервова выглядаюць машыны, ездзяць у базу СКР, хвалююцца.

Сяляне ў Альхоўцы ездзілі нават у суседнія гміны, але і адтуль сцягнуць камбайн нялёгка. Шчасце, што не ідуць дажджы, а то зерне можа асыпацца.

**(міква)**

# Кандыдаты па-над падзеламі

**Размова з ПЯТРОМ ЮШЧУКОМ — каардынатарам Краёвай управы Беларускага дэмакратычнага аб'яднання.**

***— Чаму Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне выстаўляе сваіх кандыдатаў у Сенат?***

— Кангрэс БДА прыняў перад гэтымі выбарамі такую тактыку. Калі на спісках агульнапольскіх партый апынуцца беларускія кандыдаты ў Сейм з шанцамі на пасольскае крэсла, тады будзем іх падтрымліваць і не паставім нікога іншага, каб не разбіваць галасоў. Будзем намагацца таксама, каб беларус стаў сенатарам. Калі выявілася, што сярод кандыдатаў у Сенат няма беларусаў, пастанавілі мы паставіць сваіх. Галоўная рада БДА аднагалосна акцэптавала дзве кандыдатуры: **Міхала Кандрацюка** і **Яна Тапалянскага**. Трэба адзначыць, што сход рады прайшоў 30 ліпеня і ў нас было толькі два тыдні, каб сабраць подпісы ў іх падтрымку. Тым не менш, справіліся мы з гэтым паспяхова, назбіралі больш за пяць тысяч. Гэта настройвае мяне аптымістычна.

***— Скажыце, калі ласка, хто такія кандыдаты?***

— Прафесар Міхал Кандрацюк — гэта вядомы ў навуковым свеце славіст. Даследуе ён гаворкі Беласточчыны, балта-славянскія моўныя кантакты, вывучае мясцовыя назвы і прозвішчы. Апублікаваў больш за 120 навуковых прац, у тым ліку сем кніжак. Родам ён з падгайнаўскіх Дубіноў. Ян Тапалянскі — педагог і шматгадовы працаўнік лакальнай адміністрацыі. Калі быў войтам Нараўскае гміны, правёў яе праз цяжкі час трансфармацыі пачатку 90-х гадоў так, што цяпер няма там беспрацоўя. Паспяховае развіццё тамашніх фірмаў, гэта, у вялікай ступені, вынік такіх, а не іншых яго тадышніх адміністрацыйных рашэнняў.

***— Ці маюць яны шанцы перамагчы на выбарах?***

— Па-першае, гэта вельмі добрыя кандыдаты. Навуковыя дасягненні Кандрацюка і адміністрацыйная дасведчанасць Тапалянскага павінны з'яднаць ім многа прыхільнікаў. Гэта бесстаронні асобы, не замяшаныя ў ніякія партыйна-арганізацыйныя спрэчкі. Характэрнае ім пачуццё справядлівасці і аб'ектыўная ацэнка сёняшняй рэчаіснасці. Ніхто таксама не можа паставіць ім закіду ў супрацоўніцтве са спецслужбамі ў мінулым. Яны — добрыя беларусы і грамадзяне Рэчы Паспалітай. Вопыт апошніх выбараў паказвае, што стаць сенатарам можна набраўшы 50 тысяч галасоў. Я ацэньваю беларускі электарат на 85-100 тысяч. Калі на выбары пойдзе 50% і людзі прагаласуюць за сваіх кандыдатаў, ёсць вялікія шанцы перамагчы. Я асабліва разлічваю на жыхароў вёсак.

***— Чаму менавіта гаспадар мае галасаваць за прафесара універсітэта?***

— Мы ўсе павінны ганарыцца, што з нашай вёскі вырас такі слаўны вучоны. Але не толькі ў гонары справа. Прафесар Кандрацюк усебакова апісаў нашу зямлю, дакладна ведае яе наболелае і патрэбы. Будзе яе добрым адвакатам.

***— Як БДА вядзе выбарчую акцыю? Дзе можна спаткацца з вашымі кандыдатамі, пазнаць іх праграмы?***

— На арганізаваных гміннымі уладамі фэстах. Нашы кандыдаты аб'едуць усе гміны і праваслаўныя прыходы. Скарыстаем прызнаны нам час на радыё і тэлебачанні. Будуць таксама плакаты, хоць на іх мы менш разлічваем. Найважнейшы асабісты кантакт з людзьмі. **Я, ад імя БДА, заклікаю ўсіх беларусаў, і не толькі беларусаў, прагаласаваць за Міхала Кандрацюка і Яна Тапалянскага.**

**Размаўляў Мікола Ваўранюк**

Адгалоскі

# Ці Беласточчына — гэта Прыднястроўе?

Чытаючы справаздачу з II З'езду беларусаў свету „Бацькаўшчына", якую склаў Алег Латышонак у „Ніве" (н-р 32 ад 10 жніўня г.г.) пад загалоўкам „Беласточчына як Прыднястроўе", я даведалася як з чалавечых мазгоў можна рабіць ваду, а пасля яшчэ гэтую ваду паласкаць.

Алег Латышонак піша: „Тым не менш, „супрацьпажарная" мітусня настолькі ўзлавала ўдзельнікаў з'езду, што свістамі і воклічамі „ганьба" не дазволілі зачытаць пасланне прэзідэнта Лукашэнкі".

Далей ён піша: „Асаблівую славу прыдбала сабе сп. Ніна Цыванюк, якая выступіла ў суботу па Беларускім тэлебачанні з крытыкай паводзін удзельнікаў з'езду падчас зачытвання прэзідэнцкага паслання". А далей у гэтай справаздачы ёсць словы: „Гэтая ж бойкая жанчына ў нядзелю дала адпор каталікам, знаходзячы апанента ў асобе уніяцкага святара а. Яна Матусевіча".

Я, будучы на з'ездзе, абяцала сабе, што калі вярнуся дамоў, усё апішу. Вярнуўшыся я перадумала, што калі напісаць праўду, трэба крануць некаторых беларусаў, а гэта не прынясе ніякай карысці, а толькі падзеліць і так ужо падзеленых. На жаль, Алег Латышонак змусіў мяне не маўчаць.

А цяпер паслухайце, як было сапраўды. Таго, што рабілася на з'ездзе, апісаць і расказаць немагчыма. Гэта трэба было ўбачыць на свае вочы і пачуць на свае вушы.

Калі я ехала на з'езд, не ведала, што мэта маёй паездкі — гэта ліць памыі на прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, якога я не выбірала і не маю маральнага права яго чарніць ці бяліць. Ад гэтага ёсць людзі, якія яго выбіралі і ставілі на пасаду.

Едучы на з'езд я спадзявалася сустрэцца з братамі і сёстрамі — беларусамі з замежжа, падзяліцца з імі дасягненнямі і клопатамі. А сталася зусім інакш. Ужо ўваходзячы ў залу з'езду нас сустрэлі маладыя людзі ў чорным адзенні з двума сплеценымі крыжамі на грудзях. Калі дэлегаты і запрошаныя госці занялі свае месцы, гэтыя і іншыя людзі ўвайшлі ў залу, перакрылі выхад, пачалі свістаць, крычаць „ганьба" і іншыя воклічы. Я сядзела ў апошнім радзе і гэта ўсё адбывалася ў мяне за спіною і над маёю галавою. Калі я адвярнулася, мяне апанаваў жах. Я думала, што ўварваліся людзі, якія хочуць сарваць з'езд. Быў такі натоўп у выхадзе, што выйсці з гэтай залы было немагчыма. Вось чаму ўмяшалася пажарная ахова. Свісты і крыкі „ганьба, здрада, далой Лукашэнку, жыве Беларусь" амаль не замаўкалі. Спакойна слухалі толькі тых, хто выступаў супраць прэзідэнта. Тых дэлегатаў, якія гаварылі аб сваіх праблемах, не хацелі слухаць. Крычалі тады: „даволі, сыходзь", а калі хто гаварыў на рускай мове, то зусім не давалі дайсці да слова. Мне было сорамна за нас, беларусаў. Я адвярнулася да гэтых, што крычалі і сказала: „Што вы робіце? — гэта ж тут ёсць замежныя карэспандэнты". Мне не далі закончыць. Абазвалі маскалькай. Калі я сказала, што я не маскалька, што я з Польшчы, то здаравенны мужчына мяне тузануў у плечы і сказаў: „Сядзі ды слухай, польская пані". Калі мы выходзілі на абед, да мяне падышла жанчына і запытала, якія ў мяне ўражанні. Аб сваіх уражаннях я ёй і расказала. Гэта не была крытыка і не шуканне славы, гэта была выказванне болю і крыўды. У суботу Беларускае тэлебачанне паказала ўрыўкі з абрадаў з'езду і тое, што рабілася на з'ездзе. Было і маё выказванне. Пасля гэтага ў нядзелю мне не давалі спакою. Вялося ганенне з усіх бакоў. Чапляліся да мяне, што я прадала з'езд, вызывалі як толькі ўздумалі: „прадацель беларускага народа", „лукашэнчычка", „філарэтчыца" і т.д. Пыталіся, колькі мне Лукашэнка даў касцюмаў. Стараліся panізіць як толькі маглі. Я ўсё гэта слухала. І вось калі мяне запыталіся, колькі маскальскі поп Філарэт даў мне долараў, каб я прадала сапраўдных беларусаў, я не вытрымала і сказала: „Як вам не сорамна вызываць папом і маскалём прадстаўніка Праваслаўнай царквы?" І тут пачалося... Мне даказвалі, што на Беларусі няма Праваслаўнай царквы, а толькі Царква з верай маскальскай. Калі я старалася даказаць, што няма веры маскальскай, варшаўскай ці лонданскай і што па ўсіх праваслаўных цэрквах ёсць толькі праваслаўная вера, тады мяне назвалі цёмнай цёткай. А вось якія погляды прадставіў адзін з прысутных: „Тады толькі на Беларусі будзе парадак, калі не будзе Праваслаўнай царквы". А другі катэгарычна заявіў: „І так, і так праваслаўе на Беларусі зарэжам!" Вось таму я і ўзяла голас у нядзелю. Я не шукала апанента ў асобе уніяцкага святара а. Яна Матусевіча. Я проста звярнулася да нармальных людзей з заклікам бараніць праваслаўе і не дапусціць да Чачні ці Югаславіі. У маім выказванні не было ніводнага слова супраць каталікаў ці уніятаў.

Шкада, што Алег Латышонак чуў крытыку ад людзей беларускай культуры ў адрас беластачан, якія прыехалі з Беластока „Аўтасанам", а не чуў усяго таго, што гаварылі простыя беларусы ў адрас Латышонка і яму падобных.

Пане Латышонак, не старайцеся дзяліць беларусаў на тых, што на з'езд прыехалі з Беластока „Аўтасанам" і тых, якія прыехалі „аўтастопам". Не забудзьце толькі аднаго, што ўсім беларускім Станіславам і Зянонам беларуская мова на Беларусі дарагая настолькі, наколькі мне нямецкая мова ў Польшчы.

**Ніна Цыванюк**

# Зменаў не будзе

„В политике нет сентиментов", — паўтараў часта Іосіф Вісарыёнавіч. Выбарчая кампанія, якую цяпер назіраем, пацвярджае гэты тэзіс вядомага савецкага палітыка. Кабарэ, якое адбывалася вакол справы адклікання ўрада Цімашэвіча паказвае, што граніцы абсурду і смешнасці не маюць у палітыцы ніякага абмежавання. Партыйныя лідэры, рассмакаваўшыся ўдзельніцтвам ва ўладзе, робяць усё, каб прыцягнуць галасы малазарыентаваных у палітычных гульнях выбаршчыкаў. Бязлітасна выкарыстоўваюць яны нізкую палітычную адукаванасць грамадства, ствараючы яму замест ясных крытэрыяў выбару нейкую ілюзію шчаслівай будучыні.

Невядома адкуль узнікла раптам Краёва партыя пенсіянераў і рэнтыстаў. Пасля пару месяцаў існавання мела яна ў зандажных даследаваннях грамадскай думкі каля дзевяці працэнтаў падтрымкі. Апаненты Саюза левых дэмактратаў зразу заўважылі, што партыя гэта была створана з мэтай прыцягнення ўсяго незадаволенага электарату, які па сацыяльных прычынах раней галасаваў на посткамуністаў. Таксама неспадзявана на палітычнай сцэне з'явілася раптам Краёвае пагадненне пенсіянераў і рэнтыстаў, якое несумненна ўзнікла не без удзелу Выбарчай акцыі „Салідарнасць". Абрэвіятура абедзвюх партый аднолькавая — KPEiR. А ўсё гэта не дзеля таго, каб пераканаць выбаршчыкаў, толькі каб давесці іх да стану поўнай разгубленасці.

Паралельна з набліжэннем тэрміну выбараў з экранаў тэлевізараў штораз шырэйшым ручаём выліваецца хлусня і дэмагогія, а цынізм стаў хіба найважнейшай прыкметай свету палітыкі. Абяцанні, самапахвалы, кампраметацыя канкурэнцыі і ніякай канструктыўнай думкі на будучыню. Цяжкі выбар чакае беларускі электарат Беласточчыны, але сапраўдныя словы спачування належаць палякам. Яны будуць вырашаць пра лёс свае краіны, народа. Тым часам паводзіны іхных палітычных лідэраў вельмі нагадваюць стаўленне да свае краіны магнатаў з канца семнаццатага стагоддзя.

Партыі, якія былі пры ўладзе, апошнім штурмам узялі тэлебачанне, Канстытуцыйны трыбунал, а апазіцыянеры цяпер інтэнсіўна думаюць, як найхутчэй адваяваць занятыя кабінеты. На прыкладзе тэлебачання найлепш відаць, колькі шэфы гэтай фірмы думаюць пра гледача, які плаціць на ўтрыманне гэтай разбэшчанай касты.

Найгорш, аднак, чалавек сябе адчувае, калі ўсвядоміць, што няма ніякіх перспектываў на змену гэтага стану. АВС, якая мае шанц заступіць СЛД, з'яўляецца яго люстраным адбіццём, а ПСЛ і так будзе пры ўладзе ў якасці кааліцыянта, нягледзячы на тое, хто стане пераможцам на гэтых выбарах. **(рэд.)**

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 452

Рэдактар: Сакрат ЯНОВІЧ

*Восемдзесят гадоў таму — напрыканцы першай вялікай вайны — з'явілася ў літаратуры новае імя: **Ісак Бабель**. Народжаны ў Адэсе, ён спачатку пісаў на французскай мове, папулярнай тады ў гэтым партовым горадзе. Грунтоўную класічную адукацыю атрымаў дзякуючы свайму жыдоўскаму асяроддзю, у якім панаваў культ інтэлігентнасці і шырокіх ведаў.*

*Разам са з'яўленнем у друку ў 1924 г. „Смерці Далгушова" і іншых апавяданняў са славутага потым цыкла „Конармія", Ісак Бабель набыў еўрапейскую вядомасць. Яго геніяльная проза зрабіла ўплыў на шмат-якіх пісьменнікаў (напрыклад, Эрнста Хемінгуэя). Загінуў у часы сталінскіх рэпрэсій.*

*Я даўно падступаўся да захаплячай бабелеўскай фразы, вельмі няпростай для перакладу не толькі сваёй крайняй сцісласцю ды глыбінёй падтэкстаў, але яшчэ і з вярхом напоўненай нацыянальным светабачаннем ягоных расійскіх герояў. Спадзяюся на ўдачу.*

**Ісак Бабель**

# Смерць Далгушова

Сцяна бітвы набліжалася да горада. Апоўдні праімчаў блізу нас Карачаеў у чорнай бурцы — не раз скінуты начальнік дывізіі, які цяпер вяваў сам, шукаючы смерці. У імпэце ён крыкнуў да мяне:

— Камунікацыі нашы прарваныя, Радзівілаў і Броды ў агні!..

І пагнаўся — распасцёрты, усёй чорны, з вугалькамі вачэй.

На раўніне, гладкай, як дошка, перагрупоўваліся брыгады. Сонца скочвалася ў барвовы пыл. Па равах сілкаваліся параненыя. Сёстры міласэрнасці ляжалі ў траве і паўголасам спявалі. Афонькавы рыскуны маячылі ў полі, знаходзячы пабітых і адзенне. Афонька праехаў каля мяне ў двух кроках і сказаў, не павярнуўшы галавы:

— Добра нам укле́ілі. Угрэлі як мае быць. Новага начальніка дывізіі шукаюць, кажуць. Байцам не падабаецца...

Палякі падышлі да лесу, вёрстаў тры ад нас, а недзе блізка заселі яны з кулямётамі. Кулі скуголядь ды павіскваюць. Іх скарглівасць невыносна мацнее. Кулі распырскваюць зямлю і рыюць яе, нецярпліва ўздрыгваючы. Выцягайчанка, камандзір палка, што хроп у спякоце, заенчыў у сне і прачнуўся. Ён сеў на каня і паехаў да пярэдняга эскадрона. З пакумячаным тварам з чырвонымі палосамі ад нязручнага ляжання. З кішанямі сліваў.

— От блядзь, куралём ідзе, — злосна сказаў ён і выплюнуў з рота костачку, — ну і чартовіна. Цімошка, раскруці штандар!

— Гурнем, ці як? — спытаў Цімошка, вымаючы дрэўца са стрэмяў, і раскруціў сцяг, на якім бачылася намаляваная зорка і было напісана пра III Інтэрнацыянал.

— Будзем бачыць, — сказаў Выцягайчанка і раптам закрычаў дзіка: — Дзеўкі, садавецеся на канягаў! Склікай людзей, эскадронныя!..

Трубачы адыгралі трывогу. Эскадроны выфармаваліся ў калону. З рова вылез паранены і, засланяючыся рукою ад сонца, сказаў Выцягайчанку:

— Тарас Грыгорыч, я ж дэлегат. Відаць, мы як бы застанемася...

— Адаб'ецеся... — прамармытаў Выцягайчанка і падняў каня на дыбы.

— Будзе як будзе, Тарас Грыгорыч, ды не дамо рады, — сказаў наўздагон яму паранены.

— Не стагні, — павярнуўся Выцягайчанка, — не пакіну жа ж, — і даў каманду.

І ў тую ж хвілю прагучэў па-бабску плаклівы голас Афонькі Біды, майго сябра:

— Не ганіся зразу, Тарас Грыгорыч, туды бегма вёрстаў пяць. Як жа шабляю тады секчы на загнаных конях... Не палі гарачку — да багародзіцы заўша час, дурня клеіць...

— Кро-окаа-м! — закамандаваў Выцягайчанка, не падымаючы вачэй.

Полк пайшоў.

— Калі праўда гэта з начальнікам дывізіі, — зашаптаў Афонька, прыпыняючыся, — калі новага шукаюць, тады капцы нам. Капліца.

Яму пацяклі слёзы. Я здзіўлена вытрашчыўся ў Афоньку. Ён закруціўся на месцы, як той ваўчок, падціснуў шапку, прахрыпацеў, і, загікаўшы, паімчаў.

Грышчук са сваёй адурэлай тачанкаю ды я — мы засталіся самі і аж да вечара швэндаліся паміж вогненнымі сценамі. Штаб дывізіі знік. У іншыя атрады нас не прымалі. Палкі ўвайшлі ў Броды і былі выбіты адтуль контратакаю. Мы пад'ехалі да гарадскіх могілак. З-за магілаў выскачыў польскі кавалерыйскі патруль і, падняўшы вінтоўкі, пачаў біць па нас. Грышчук павярнуў. Тачанка яго енчыла ўсімі чатырма коламі.

— Грышчук! — крыкнуў я сярод свісту і ветру.

— Дурата, — адказаў ён сумна.

— Накладзем галавою, — усклікнуў я, ахоплены нейкім пагібельным захапленнем, — накладзем, чуеш!?

— Нашто бабы намагаюцца? — адказаў ён з яшчэ большым сумам, — нашто ўсе тыя сваты, шлюбы, нашто кумы на вяселлях весяляцца...

У небе заззяў ружовы хвост ды пагас. Млечны Шлях высвечваўся між зорак.

— Смехата мне, — сказаў Грышчук тужліва і паказаў пугаём на чалавека, што сядзеў ля дарогі, — смехата мне, нашто бабы намагаюцца...

Чалавекам, сядзеўшым ля дарогі, быў Далгушоў, тэлефаніст. Раскінуўшы ногі, ён упарта глядзеў на нас.

— Во справа якая, — сказаў Далгушоў, калі мы пад'ехалі, — кончуся... Зразумелі?

— Зразумелі, — адказаў Грышчук, спыняючы коней.

— Куляю трэба патраціцца на мяне, — сказаў Далгушоў.

Ён сядзеў, апёршыся аб дрэва. Яго боты тырчэлі ўроскід. Не зводзячы з мяне вачэй, ён асцярожліва адхіліў кашулю. У яго быў вырваны жывот, кішкі спаўзалі на калені і было відаць удары сэрца.

— Наскочыць шляхта — назабаўляецца ганебна. Во, дакумент, матцы адпішаш, як і што...

— Не, — адказаў я і паганяў каня.

Далгушоў паклаў на зямлю сінія далоні ды глядзеў на іх з недаверам...

— Уцякаеш? — прамармытаў ён, ссоўваючыся зусім. — Уцякаеш, падлюга...

Я ўмакрэў. Кулямёты стукацелі штораз хутчэй, з істэрычнай заядласцю. У ззянні німба захаду імчаў да нас Афонька Біда.

— Калываецеся памаленьку, — закрычаў ён весяліста. — Што ў вас тут чаўпецца?

Я паказаў яму на Далгушова і ад'ехаў.

Яны гаварылі коратка, — словаў я не чуў. Далгушоў падаў старшаму свае паперы. Афонька засунуў іх за халяву і стрэліў Далгушову ў рот.

— Афоня, — сказаў я з жаласлівай усмешкаю і пад'ехаў да казака, — а я во не мог.

— Вон, — адказаў ён, бялеючы на твары, — заб'ю! Вы, у акулярах, усё шкадуеце нас, як кошка мышку...

І паклаў палец на цынгель.

Я няспешна ад'ехаў, не адварочваючыся, адчуваючы спіною холад і смерць.

— Кінь, — закрычаў ззаду Грышчук, — не дурэй! — і схапіў Афоньку за руку.

— Халуйская кроў! — крыкнуў Афонька. — Я яшчэ дападу да яго.

Грышчук нагнаў мяне на паваротцы. Афонькі не было. Ён кудысьці паехаў.

— От так, Грышчук, — сказаў я, — сёння патраціў я Афоньку, свайго наймпершага сябра...

Грышчук выкалупаў аднекуль паморшчаны яблык.

— На, — сказаў ён мне, — еш, калі ласка...

*Пераклаў Сакрат Яновіч*

---

*Чвэрць стагоддзя назад прагучэў паэтычны голас **Міхася Шаховіча**, бельскага ліцэіста і варшаўскага студэнта. Такі адрэзак часу ў літаратуры — гэта эпоха. Творчасць Шаховіча сёння вядомая не толькі беларускаму чытачу.*

*З такое нагоды змяшчаем некалькі яго новых вершаў.*

* * *

*Анастасіі*

І я не той
І ты ўжо не тая.
Штораз часцей
Уцякаем думкамі
У былое.
Вунь малады,
А побач —
Маладая,
Стаяць,
Як мы некалі,
У венчыку-кароне.
І нас
Месяц браў за рукі,
І зоры
Званілі ў купале неба,
Але,
Калі б заранка
Не дала зарукі —
Не ведалі б,
Што сонца пахне хлебам.
Так цяжка ісці
Пад гару ў адзіноце.
Яшчэ цяжэй
Душы
Стаяць і прызірацца.
Заўсёды дзень
Ідзе ў падзменку ночы,
А нешта шэпча:
— Трэба спадзявацца.

* * *

Куды
Ляціць камар?
Куды
Бяжыць мурашка?
Чаму
Сівы туман?
Чаму
Шчабеча пташка?
Чаму
Расце трава?
У што
Паверыў вецер?
Чаму
Каронай дня
Крывава-змрочны вечар?
Чаму
Жаданняў многа?
Чаму
Так мала веры?
Чаму?
Чаму?..
... Стаю я ў вушаках
Расчынены, як дзверы.

* * *

А там недзе час
Злосна
Пальцам ківае,
Вока жмурыць нядобра
І моршчыцца ў гневе.
Перасцярогу
У душы
Вінавата хаваю,
Сарамліва вачыма
Ценю
У сонцы шукаю.
Добра знаю —
Надзея таксама
Недарэчна сканае,
Калі
Веры не ўскорміш
Ахвотай жадання.
І талент
Без падтрымкі
Бясследна знікае,
І чаканне
Аніякага сэнсу не мае,
Калі думкі
У няволі трымаеш.
Нішто
Не прыходзіць само,
Калі не сягаеш,
Дух часу
Не спазнаеш.
Яблык спелы і той
Пару сваю знае.

---

**25 ліпеня памерла ў амерыканскім выгнанні легенда беларускай літаратуры НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА. Яна пражыла 94 гады, амаль цэлае XX стагоддзе. І з Яе імем вяжацца росквіт Беларускага Адраджэння.**

**„Магутны Божа", манументальны твор Наталлі Арсенневай, бралі пад увагу як новы гімн у яшчэ свежую незалежнасць Рэспублікі Беларусь некалькімі гадамі назад.**

**Будучы народжанай расійскай арыстакраткай, у гісторыі роду якой сустракаем геніяльнага Міхаіла Лермантава, прысвяціла Яна свой выдатны талент беларускай справе і культуры. Па волі жыццёвага лёсу, апынуўшыся ў Беларусі, Наталля Арсеннева па вялікім рахунку гонару ды асабістае дастойнасці адчула сябе шчырай маладой патрыёткай гэтак жа маладой новай Айчыны.**

**Яе беларуская творчасць, параўнальная з лепшымі здабыткамі еўрапейскай паэзіі, належыць залатому фонду нашай нацыянальнай культуры.**

***Беларускія пісьменнікі Польшчы***

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Сямікласнікі з Дубін з настаўніцай беларускай мовы Нінай Гаўрылюк.*
Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Міфы старой Беларусі

Многія з вас цікавяцца міфамі старажытнай Элады. Здараецца, што вывучаючы асновы сусветнай культуры, ставім сабе пытанне: ці наш народ стварыў таксама сваю міфалогію? Зразумела, ды і яшчэ якую багатую і паэтычную. Беларускія адпаведнікі дапасаваныя да натуральных асаблівасцей краю. У дрымучых і непраходных пушчах сустракаем лесуноў, у багністых і азёрных абшарах — процьму ўладальнікаў балот, азёраў, ручаёў: балотнікаў, багнікоў, вадзянікоў. Незвычайна багаты свет дамашніх бажкоў — дамавікоў, лазнікоў, хлеўнікаў.

Зараз пачынаем цікавы цыкл звязаны якраз з беларускай міфалогіяй. Думаю, што варта пазнаёміцца са старажытнымі вераваннямі нашых продкаў. Пазней намнога лягчэй зразумець гісторыю і культуру свайго народа. Мы намалюем карціны міфічных персанажаў у алфавітным парадку.

**1. Аржавень**

Аржавень (Аржавеннік) — брудна-руды бажок з надзвычай тоўстым жыватом і тонкімі нагамі. Усё яго цела пакрытае іржавымі прыліпамі. Аржавеннік увесь час рыгае і не можа прыцягнуць да сябе ўвагу нават неразборлівых нешчасліўцаў. Усе жывыя істоты абыходзяць яго жытло. Аржавенніку вельмі рэдка даводзіцца здабыць ахвяру. Жывёла забягае ў балотнае месца паспешліва, напрыклад, ратуючыся ад драпежнікаў. Чалавек пападзе сюды толькі ў ненармальным стане.

Аржавеннік больш спакойны чым яго браты — Багнік і Балотнік. Можа таму, што нават спякотнае лета не высушвае аржавень, а людзям непатрэбная такая неўрадлівая зямля. Нешчаслівец звычайна валяецца на дне свайго жытла, абрастае ліпкімі слаямі аржавені і балота. Ён безупынна падтрымоўвае каламуць у балоце. Гэты ўладальнік аржавені не можа адарвацца ад свайго месца, каб прыманіць падарожніка ці бадзягу. Аржавенніку немагчыма закрыць свайго няшчаснага жытла. Нават калі аржавень закрылася ільдом і зацярусілася снегам, на верху сустрэнеце бура-жоўтую афарбоўку.

*(паводле зборніка „Міфы Бацькаўшчыны")*

# Зноў сустракаемся

Прывітанне, сябры! Зноў сустракаемся ў школе. Маю надзею, што „Зорка" будзе і далей спадарожнічаць вашаму маладому жыццю. І не толькі на ўроках беларускай мовы. Многія з вас, што нас вельмі радуе, не кідалі чытаць нашу газету ў час лянівых канікул. У ліпені праходзілі XI Сустрэчы „Зоркі", якія завяршыліся багатым плёнам — шматлікімі этнаграфічнымі матэрыяламі. У „Зорцы" будзем друкаваць самыя папулярныя песні з гэтага падарожжа. Прыемна было сустракаць старых сяброў у такіх мясцінах, як Кнарыды, Дубяжын, Орля. Такія мерапрыемствы будзем арганізаваць у будучыні. Прыгадаю, што ўдзельнічаюць у іх толькі нашы карэспандэнты — дзеці і моладзь, якія супольна з рэдакцыяй фармуюць характар часопіса. Будуць і далей крыжаванкі з узнагародамі, шматлікія тэматычныя конкурсы, дыдактычныя гульні і цікавінкі. З гэтага нумара пачнем друкаваць у адрэзках „Міфалогію старажытнай Беларусі". Будуць прадаўжацца і гістарычныя артыкулы, казкі шматлікіх народаў, ну і, зразумела, вашы допісы.

Калі ў вашай школе будзе вялікая колькасць чытачоў „Зоркі", рэдакцыя абавязкова вас наведае. Напамінаю, што не ўсе яшчэ ўзялі свае ўзнагароды з мінулага школьнага года. Дзеткам з самых далёкіх мясцін дашлем іх па пошце. Іншыя хай чакаюць іх у сваёй школе.

**Зорка**

# Польска-беларуская крыжаванка № 36

| | Szlus | Kopa | | Poza<br>Kałuża | | Ganek<br>Gra |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Szkoła | | | | | | |
| Hasło | | | | | | |
| Pożar | | | | | | |
| Pies | | | | | | |

# Ваяцкі здрой

Побач мястэчка Кузніцы, што ў самым усходнім куточку Беластоцкай зямлі прытулілася, віецца, цурчыць невялікая рэчка Ласосьная, ці, як яе любоўна называюць мясцовыя людзі, — Ласасянка. То выскачыць яна на паплавец, то ў лазовыя кусты схаваецца, з'явіцца каля агародаў або пад мосцік нырне. А ўсюды па ёй брады і віры, крынічкі ды плёсы параскіданы. І толькі скажы кузнічанам, што іхняя рэчка надта ж прыгожая, яны з задавальненнем выслухаюць пахвалу, бо любяць сваю рэчку, і адразу не прамінуць прыгадаць легенду пра самы глыбокі вір на ёй, які завецца Ваяцкі здрой.

Кажуць, што здарылася тое калісь-пракалісь, як тут, паміж рэкамі Бобраю і Нёманам, вялікая пустэча была. А па той пустэчы гуртамі гулялі-скакалі на борздых конях вольныя малойцы-ваяры. Па звонкіх барах яны гарцавалі, а пад разгалістымі елкамі начавалі. І ніхто не здолеў тудою ні прайсці, ні праехаць...

Як спаймалі яны фанабэрыстага ды неспагадлівага баярына-пана, то бабровае футра ды ядвабныя адзежкі з яго здзіралі і галышом на шлях пускалі. Калі ж купец-ашуканец ім падвярнуўся, дык золата-срэбра забіралі, з пустымі кішэнямі праганялі. І ўсё-ўсенькае бядоце-галоце раздавалі. І жыла так тая вольніца, па лясах пасвістваючы ды па шляхах пагульваючы.

Але ж насталі неспакойныя часы: ворагі-захопнікі на землі пачалі навальвацца, людзей у няволю браць, дабро рабаваць, сёлы ды гарады паліць. І вольныя малойцы-ваяры сваю зямлю ад нашэсцяў сталі абараняць, на ворагаў знячэўку нападаць, палонных суродзічаў ды нарабаванае дабро адбіваць, захопнікаў праганяць.

***(працяг будзе)***

**Мікола Гайдук**

*Малюнкі Пятра Дзямянюка*



# Традзічына

*(Італьянская казка)*

Жыла адна бедная жанчына, і было ў яе трынаццаць сыноў. Наймалодшага звалі Традзічына. Гэта таму, што быў ён трынаццатым сярод братоў, а ў Італіі такіх хлопчыкаў заўсёды называюць Традзічынам. Беднай маці было вельмі цяжка пракарміць сваіх дзяцей.

Калі дзеці падраслі, маці аднойчы паклікала іх да сябе і сказала:

— Я ўжо старая, не магу больш вас карміць — прыйдзецца вам самім пра сябе клапаціцца.

Падаліся браты ўдачы шукаць. Ішлі яны, ішлі, бачаць — на ўзлеску дом стаіць. А ў гэтым доме летам жыў кароль. Пастукаў Традзічына ў дзверы і прапрасіў у караля кавалак хлеба для сваіх галодных братоў. Надзьмуўся кароль, як індык, і кажа:

— Не магу ж даваць хлеб усім галодным абадранцам! Вось калі знойдзецца сярод вас храбрэц, які адбярэ ў ваўка маю коўдру, тады я дам вам хлеба і нават грошай.

Разгубіліся браты, не ведаюць, што адказаць каралю. Толькі Традзічына не спалохаўся. Падышоў ён да караля і кажа:

— Дайце мне вялікую іголку, а я вам прынясу коўдру.

Далі Традзічыне іголку, і пайшоў ён проста да дому ваўка. Схаваўся хлапец за дрэвам і пачаў чакаць. Толькі выйшаў воўк з хаты на паляванне, Традзічына хуценька залез на дах, улез у дом праз комін і схаваўся пад ложкам. Вярнуўся воўк з палявання стомлены, выцягнуў з куфра коўдру, лёг на ложак і адразу ж захроп. Тады Традзічына падкраўся да ваўка і давай яго калоць іголкай то ў бок, то ў спіну. Закруціўся воўк — коўдра і спаўзла з яго. Тут Традзічына падхапіў яе, вылез з хаты комінам і пабег да караля.

А трэба вам ведаць, што быў у ваўка вучоны папугай. Што ў яго ні спытаеш, ён на ўсё адкажа, і час умеў пазнаваць. Прачнуўся воўк раніцай і пытаецца ў папугая, якая гадзіна.

— Яшчэ толькі пяць гадзін раніцы, а хітры хлапчук Традзічына ўжо ўкраў у цябе коўдру! — адказаў папугай.

— Няхай толькі гэты разбойнік трапіцца мне ў лапы, я яму пакажу! — завыў воўк, ды так гучна, што зайцы ў лесе перапалохаліся.

А тым часам Традзічына быў ужо ў каралеўскім доме і чакаў абяцанай узнагароды. Але кароль і не думаў здзейсніць сваё абяцанне.

— Гэта не мая коўдра, — сказаў ён Традзічыне. — Адбяры ў ваўка маю коўдру, са званочкамі. Тады я ўжо абавязкова цябе ўзнагароджу.

— Добра, — адказаў Традзічына. — Дайце мне вату і ніткі, і я прынясу вам вашу коўдру са званочкамі.

Ноччу падкраўся Традзічына ў дом ваўка, а каб званочкі не звінелі, хітры хлапчук захутаў іх у вату і абвязаў ніткамі. Потым ён схапіў коўдру і бягом у дом да караля.

Прачнуўся воўк раніцай і пытаецца ў папугая, якая гадзіна.

— Усяго толькі чатыры гадзіны раніцы, а Традзічына паспеў ужо ўкрасці ў цябе коўдру са званочкамі.

Яшчэ больш раззлаваўся воўк, зубамі заскрыгітаў, зароў:

— Злаўлю Традзічыну — разарву яго на часткі!

А Традзічына ў гэты час прыбег ужо ў каралеўскі дом, аддаў слугам коўдру і чакаў узнагароду.

Як вы думаеце, кароль узнагародзіў хлапчука? Не!

Захацелася цяпер каралю вучонага папугая прыдбаць — няхай час яму кажа, калі ён прачнецца.

Зажурыўся Традзічына: „Як папугая ўкрасці? Толькі да яго падыдзеш, ён так запішчыць, што воўк адразу пачуе”.

Не дарма Традзічына быў самы разумны з братоў. Усё-такі прыдумаў, як перахітрыць папугая.

Папрасіў Традзічына ў каралеўскіх слугаў розных прысмакаў, паклаў іх у кошык і пайшоў у лес. Дачакаўся ён, калі воўк выправіцца па ваду, пракраўся ў яго дом, паставіў адкрыты кошык на стол, а сам пад стол схаваўся. Бачыць папугай — кошык з ласункамі і нікога няма. Ну хіба мог папугай не пакваліцца на прысмакі, калі ён любіў іх больш за ўсё на свеце! Залез ён у кошык, напхаў поўную дзюбу, жуе ды ад асалоды языком прыцмоквае.

Тут падкраўся Традзічына, ляпнуў вечкам, схапіў кошык і пусціўся з усіх ног да караля.

Бедны Традзічына думаў, што ўжо цяпер усе яго выпрабаванні скончыліся і ён з братамі вернецца дамоў. А дзе ж там! Узяў кароль у Традзічына папугая і сказаў хлопцу:

— Паслухай, Традзічына, даю табе сваё каралеўскае слова, што ўзнагароджу цябе, як абяцаў. Але спачатку ты павінен выканаць апошняе маё жаданне: хачу, каб ты злавіў самога ваўка! А калі ты не зловіш яго, не міне цябе смерць! Зразумеў?!

Усю ноч думаў бедны Традзічына, як злавіць таго ваўка, і прыдумаў. Раніцай збіў ён вялікую скрыню, паставіў яе на каламажку і паімчаўся ў лес.

Падышоў ён да воўчага дома і давай крычаць на ўсю моц:

— Кароль загадаў злавіць непаслухмянага Традзічыну! Хто дапаможа мне злавіць Традзічыну?

А воўк тут як тут:

— Гэта ты, малышок, хочаш злавіць Традзічыну? Я дапамагу табе! Цяпер той разбойнік не ўцячэ ад нас!

— Я ўжо і скрыню падрыхтаваў. Вось баюся, ці не цесная будзе. Кажуць, Традзічына аднаго росту з табою, воўк. Ляж, калі ласка, у скрыню, я праверу.

Дурны воўк пакорліва залез у скрыню. Не паспеў ён добра ўлегчыся, як Традзічына схапіў малаток і хуценька пачаў забіваць вечка скрыні цвікамі.

— Што ты робіш, хлопчык! Я ж тут магу задыхнуцца! — закрычаў воўк.

— Нічога, нічога, дзядзька воўк, дарога тут блізкая. Можна і патрываць, — адказаў яму Традзічына.

Так вось злавіў Трыдзічына ліхога ваўка.

Давялося на гэты раз каралю даць Традзічыне і яго братам абяцаную ўзнагароду.

Задаволеныя вярнуліся браты да маці. Пабудавалі яны сабе новы дом і пачалі жыць у ім дружна і весела.

## Блішчыць у небе зор пасеў

Блішчыць у небе зор пасеў;
У полі — рунь і ў небе — рунь.
Да рэчкі лецячы, ўзляцеў
Між імі марай белы лунь.

Кажан пранёсся на крылах,
Стракочуць конікі ў траве,
Снуюцца мышы па палях,
Здаецца — ўсё вакол жыве.

Жыццё чуваць з усіх старон,
Жыццём напоўнены ўвесь мрок.
Ці ж загубіў плывучы сон
З чырвоных макаў свой вянок?

**Максім Багдановіч**

## Загадкі

Хто са мною пасябруе,
Той ужо не засумуе.
Языка хоць і не маю,
А пра ўсё апавядаю.

* * *

Белы дамок
У кватэры стаіць.
У ім круглы год
Дзед Мароз
То буркоча,
То спіць.

* * *

На полі цёмным і бясконцым
Гарох бялюткі ззяе.
А цемру як разгоніць сонца,
Тады гарох знікае.

**Міхась Пазнякоў**



# Скарбонка роднай песні

Народная песня — адзін з найстарэйшых відаў творчасці, у якой адлюстроўваецца характар народа і яго звычаі. У наш час не адыгрывае яна так істотнай ролі ў штодзённым жыцці, а і сучасныя формы музычнай культуры спіхаюць яе на эстрадную абочыну. Аднак ва ўмовах нацыянальнай меншасці песня становіцца адным з фактараў, якія садзейнічаюць станаўленню і замацоўванню нацыянальнай самасвядомасці. На гэта менавіта звяртае ўвагу нястомны збіральнік і даследчык беларускага фальклору ў Польшчы Мікола Гайдук, які ва ўступе да сваёй кнігі „Песні Беласточчыны"* напісаў наступнае: „Народная песня дапамагала і дапамагае да сённяшняга дня беларусам Беласточчыны на працягу доўгіх стагоддзяў захоўваць сваю нацыянальную тоеснасць. Яна гуртавала і гуртуе не толькі тых, хто спявае разам з іншымі ці ўпаасобку, але і тых, хто яе слухае, бо прабуджала і прабуджае ў іх пачуццё сваёй адметнасці, сваёй душэўнай красы, свайго гонару і нацыянальнай свядомасці". Том гэты — плён дванаццацігадовых вандровак яго складальніка па Беласточчыне ў пошуках беларускіх народных песень. З гэтай мэтай, прызнаецца Мікола Гайдук, схадзіў ён ды з'ездзіў з магнітафонам увесь наш рэгіён і запісаў сотні народных песень — жамчужын роднай музычна-паэтычнай культуры. Запісаныя песні друкаваліся затым на старонках „Нівы" і штогодніка „Беларускі каляндар". І вось сёлета сабраныя Міколам Гайдуком скарбы песеннага фальклору беларусаў Беласточчыны выйшлі друкам у серыі „Беларуская народная творчасць" — шматтомным навуковым выданні беларускага фальклору, заснаваным у 1970 годзе Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі.

У зборніку змешчаны 607 песень, падзеленых на тры катэгорыі: каляндарна-абрадавыя, сямейна-абрадавыя і пазаабрадавыя песні. Сярод 216 каляндарна-абрадавых песень большую частку складаюць калядныя, валачобныя, велікодныя і восеньскія песні. Чарговыя 186 твораў сямейна-абрадавай паэзіі датычаць галоўным чынам вясельнай і хрэсьбіннай абраднасці, а 205 астатніх пазаабрадавых песень маюць пераважна любоўны і сямейны характар. Тэксты песень, якія аўтарам зборніка запісваліся ў дыялектнай форме, у кнізе выпраўлены паводле прынцыпаў літаратурнай мовы. Аднак асобам зацікаўленым іх арыгінальнай формай будзе можна дайсці да дыялектнага запісу, паколькі ў каментарыях да песень, калі яны раней друкаваліся ў „Ніве" ці „Беларускім календары", указаны даты іх апублікавання ў гэтых выданнях.

І хаця ў інфармацыі на тутульным лісце зборніка напісана, што разлічаны ён на фальклерыстаў, этнографаў, філолагаў, студэнтаў і выкладчыкаў, дык, на маю думку, павінен ён трапіць таксама ў бібліятэкі ўсіх школ з беларускай мовай навучання і культурных устаноў Беласточчыны, стаць дапаможнікам настаўнікам і аніматарам культуры. Змешчаныя ў зборніку песні можна паспяхова выкарыстоўваць для складання фальклорных сцэнак, якія часта ставяцца школьнымі драмгурткамі. Самадзейнікам у сваю чаргу згаданы том можа паслужыць крыніцай рэпертуару, тым больш што да многіх песень даецца іх нотны запіс. Трэба спадзявацца, што карпатлівая шматгадовая праца складальніка зборніка не толькі захавае ад забыцця музычна-паэтычную творчасць нашых продкаў, але і пасадзейнічае прадаўжэнню песеннай традыцыі беларусаў Беласточчыны.

**Віталь Луба**

**Песні Беласточчыны.* Укладанне Мікола Гайдук, Мінск 1997, сс. 367.

# Малы клопат

З большымі дзецьмі клопат, вядома, больш. А найбольш імі заўсёды клапоцяцца і перажываюць дзед з бабай, асабліва калі ім, старэнькім, і яшчэ не зусім старым улетку на лета „падкідаюць" іхнія дарослыя дзеці сваіх дзяцей. З імі не збяжышся, і не дагодзіш, і не заўсёды дагаворышся, хоць, кажуць, кантакт трэцяга з першым пакаленнем бывае лепшы чым паміж бацькамі і дзецьмі.

Летам у вёсцы добра — свежае паветра, дзіця ўвесь час пад адкрытым небам, на ўлонні прыроды. Машын таксама тут менш чым у горадзе. Але ж усюды цікуе небяспека — трактар, сячкарня, празмерная ўласная цікавасць...

У вёску Белявічы Гарадоцкае гміны ў адно лета да дзядоў прыехалі ўнучкі з Гданьска. Цікавіліся ўсім. А найбольш спадабалася ім смаленне вепрука ў суседзяў. Свінчо, калі дзеці прыйшлі, ляжала ўжо нежывое, на спіне, падстаўляла свае ружовыя бакі пад кулькі палаючай саломы. Пахла шчэцце і мясам. Пасля сусед распаловіў тушу, паказаліся вантробы, і дзеці кінулі глядзець, пайшлі дадому. Па дарозе прыхапілі аднаго з катоў, што сядзелі пад плотам, чакаючы пачастунку.

За стадолай усё ўжо мелі падрыхтаванае. Кот не вельмі бараніўся, калі пакацілі яго на лапаткі — думаў, дзеці гуляць збіраюцца. Стаў вырывацца, калі прывязалі яму да жывата салому. З дзікім крыкам кінуўся ў стадолу, з палаючым касніком за сабою. Сусед, учуўшы, як нешта па-дзіцячаму лямантуе, заглянуў на падворак, але нікога не ўбачыў — дзеці прыталіся ў кустах. Кінуліся ў няскошанае ячмень жыта, калі полымя ахапіла ўсю стадолу. Людзі пачулі страшны дзіцячы віск і енк у стадоле, кінуліся ратаваць. На жаль, пакуль прыехалі пажарнікі, не было чаго збіраць. Шукалі спаленых целаў, перакананыя ў тым, што дзеці згарэлі — у паветры стаяў выразны пах паленых валасоў і цела. Да няшчаснай бабулі прыехала скорая дапамога з Беластока.

Дзеці з жыта баяліся вылезці, пераляканыя пабачаным. З перапуду не маглі пасля і слова вымавіць. Вось дык і насмалілі „вепручка"!

У вёсцы Меляшкі былі калісь леты, калі ўсё кіпела! Цяпер і так людзі працуюць, хоць большасць ужо пенсіянеры. Але хто летам уседзіць у хаце! Усе ў пагодны дзень — у полі. І было так: дома асталося трое дзяцей — васьмігадовая Валя, шасцігадовая Галенка і чатырохгадовы Андрэй. Валя пайшла ў аўтакраму купіць хлеб, а меншыя забаўляліся ў хаце. Адчынілі бабчын шкапчык. Ляжала там бутэлечка з бабулінымі блакітнымі таблеткамі ад бяссонніцы. Галенка спрабавала — смачныя, салодкія! І якія прыгожыя!

— Мне дай таксама! Але, каб справядліва было, пароўну! — брата карцела спрабаваць тое смакоцце.

Сястрычка высыпала таблеткі, расклала іх на дзве роўныя кучкі. Хлопчык хутка з'еў сваю долю, а сястра рашыла: „Не буду іх цяпер есці, пасаджу ў вазон, каб больш іх нарасло".

Пасаджаныя таблеткі ўратавалі жыццё дзяцей. Андрэйка заснуў непрабудным сном. Галенка маўчала. Урэшце паказала доктару, куды падзела каляровыя „вітамінкі". Найбольш прэтэнзій бацькі і бабка мелі да Валі — павінна ж была глядзець за малымі. А не было ж яе ў хаце толькі з 15 хвілін! А і ёй жа толькі самой 8 гадоў... А і так, як на свае гады, трапна тады падсумавала дарослыя парадкі. А тут ужо палохалі на сямейнай нарадзе, што за такія збыткі то ў „папраўчак" адправіць можна непаслухмяных дзетак!

— А дзядзька Б. ведае, што гарэлка і папяросы — таксама атрута, а чаго ён п'е і курыць?! Ведае ж, не малы! Для дарослых „папраўчакаў" няма, ці што?..

**Міра Лукша**

# Цудадзейныя месцы моцы

**Нешта здарылася са мною**

Набліжалася поўнач. На чыгуначным вакзале ў Белавежы спраўлялі Купалле.

— Я вельмі крытычна ставілася да дзіўных звестак пра дуб, на якім быццам бы паказалася ікона. Што там нейкія месцы моцы? — успамінае паэтка Міра Лукша, родам з прыпушчанскай вёскі Баравыя. — Але пайшла туды з сябрамі. Побач дуба са мной нешта здарылася. На цела звалілася нейкая нерухомасць, дзеравянасць. Мае рукі пачалі абмацваць быццам бы постаці з круглай галавой. Быццам перада мною вырасла фігура язычніцкага бога. Душу змарозіў страх. Я ледзь адарвалася ад таго месца. Нейкі голас загадаў мне ўцякаць.

— Каля гэтага дуба людзі адчуваюць дзіўныя перажыванні, — кажа Пётр Байко з Белавежы.

Мой субяседнік назіраў аднойчы паводзіны дзяўчынкі, якая не ведаючы чаму пачала выконваць рухі рукамі. Выглядала, што нехта загадвае ёй выконваць акрэсленыя дзеянні. Самое дзіця не ведала чаму і для каго махае рукамі.

**Здарэнне па меры эпохі**

— Пра месца моцы пачалі гаварыць вясной 1991 года, — кажа Пётр Байко. — На дубе (*бачыце яго на здымку*) паявілася выява чалавечай галавы. Наш былы псаломшчык, Пётр Дваракоўскі, сцвердзіў, што выява нагадвае яму ікону Архангела Гаўрыіла, якая знаходзіцца ў тутэйшай могільнікавай капліцы. Усё раскруціў Сяргей Тарасевіч. Ён пастаянна прыходзіў сюды, назіраў за выявай. Спачатку не атрымоўвалася яму ўлавіць зыходзячую з дуба энергію. Тады ён падзяліўся сваёй таямніцай са мной і Барысом Руско. І ўтраіх пачалі мы даследаваць гэтае месца.

Ад аповедаў спадара Байко, быццам ад цудадзейнага дуба, плыве пушчанская энергія. Ахінае нас і тая ж атмасфера, якая атрымоўваецца ў час медытацыі ля дуба.

— Пазней праз часопіс „Nie z tej ziemi", — кажа мой субяседнік, — наладзілі мы кантакт з радыестэтам Лешкам Матэлем. Паказалася, што ўзгорак з пятнаццаццю дубамі праяўляе вялікае выпраменьванне. Паводле Матэлі ўзгорак з дубамі — гэта сляды святога гаю, месца культу язычніцкіх продкаў. Белавежа, аказалася, ляжыць на адным з важнейшых геамантычных адгалінаванняў Еўропы, якая на захадзе спалучаецца з Гнезнам, далей з легендарным месцам чараўніц Гексентанцпляц у гарах Гарц і слаўнай гнастычнай капліцай катараў у Дрыгельтэ непадалёк Соэст.

Самае моцнае месца на белавежскім узгорку знаходзіцца якраз у месцы, дзе стаіць дуб з выявай Архангела Гаўрыіла.

— Мы ставілі гіпотэз, — кажа П. Байко, — што нешта важнае адбудзецца. Прыгадайма, што быў пачатак 1991 года. У снежні гэтага ж года ва ўрочышчы Віскулі, што на Беларусі, дайшло да пагаднення аб распадзе Савецкага Саюза. Урочышча Віскулі знаходзіцца 9 кіламетраў ад цудадзейнага дуба.



І для Белавежскай пушчы пачаўся асаблівы час. Якраз завязалася мітусня ў справе абароны Белавежскай пушчы. Змаганне вядзецца не толькі ў Польшчы. З усяго свету даходзяць адгалоскі і пратэсты экалагічных арганізацый. У 1995 годзе Белавежскі нацыянальны парк быў пашыраны.

**Успомнілі пра ахвяры**

— Адчуваю сябе быццам на могільніку. Ці кагосьці ў гэтым месцы пахавалі? — дапытвалася аднойчы жанчына, якая апынулася з экскурсіяй ля дуба.

— Пазней мы даведаліся ад пані Веры Гвай, што быццам у 1920 годзе пад дубам расстралялі і пахавалі групу савецкіх жаўнераў, якія вярталіся з-пад Варшавы. Гэтую звестку пацвердзіў і старажыл Рыгор Байко. Паводле яго пад дубам пакояцца жаўнеры, якіх расстралялі на белавежскай паляне. Рыгор Байко ўспомніў яшчэ, што пачаткова там вісеў сцяг і табліца са спіскам ахвяр.

**Пушчанскія рыцары**

У Белавежы па-рознаму гавораць пра цудадзейны дуб і месцы моцы. Саміх даследчыкаў — доктара Сяргея Тарасевіча, лесніка Пятра Байко і паэта Барыса Руско — завуць трыма мушкецёрамі. З сімпатыяй і гонарам расказваюць пра пушчанскіх рыцараў. Таемныя месцы моцы з'яўляюцца турыстычным атракцыёнам. Цікавасць да гэтага пушчанскага феномену праяўляюць многія паклоннікі *нью-эйдж*.

Пятро Байко дадае:

— Сяргей аднойчы сказаў, што мы не выпадкова ўцягнуліся ў гэтую справу. Мы былі проста назначаны надаць гэтым месцам ранг і вядомасць.

* * *

Былы псаломшчык Пётр Дваракоўскі зведаў на сабе яшчэ раз таемнасць аднаго здарэння. Было гэта вечарам 30 красавіка 1995 года. Паводле эзатэрычнай тэорыі якраз тады пачынаецца магічная ноч Вальпургіі.

Пётр Дваракоўскі апынуўся ў групе турыстаў якраз каля ўзгорка з дубамі. Раптам угары пачуліся дзіўныя галасы. Мяшаліся яны з гулам машын і плачам дзіцяці. Неразборлівыя гутаркі вяліся на расейскай мове. Таемныя размовы цягнуліся нейкія дзесяць хвілін. Пасля зноў запанавала драмучая цішыня.

**Ганна Кандрацюк**

*Фота з архіва „Нівы"*

# Жніва ў Рыбалах

Надарылася мне нагода наведаць Рыбалы. Падаўся я напачатак да Мікалая Ігнацюка, бо калісь запрашаў ён мяне ў сваю вёску. Заходжу да яго дадому, а ён мяне не пазнае. Нагадаў я яму пра запрашэнне.

— Ведаеце, мяне многія знаюць, але я ж не ўсіх іх помню, — апраўдаўся спадар Ігнацюк.

Пачалі мы гутарку пра жыццё-быццё. Цяжка цяпер жывецца на вёсцы; відаць гэта па маім гаспадары — пахудзеў ён. Нямнога было і трэба, каб і я яго не пазнаў. Бо ўсялякіх клопатаў цяпер — хоць адбаўляй!

— Вось збожжа сабралі ў мінулым годзе, — кажа сп. Ігнацюк — поўныя шпіхлеры засыпалі, а прадаць няма куды. Тое ж і з бульбаю: калісь, калі бульба была крыху падаражэла, купілі мы на аўкцыёне некалькі гектараў зямлі з думкаю пра яе. У мінулым годзе пасадзілі два гектары, і прадаць не маглі. Аддавалі па пяць злотаў за метр, і то ніхто не хацеў браць! Калісь, пры камуне, была кантрактацыя і ўсё бралі; толькі давай! Або зноў з быдлам: калісь плацілі па дваццаць дзевяць за бычка, а цяпер па дваццаць. А мяса і вырабы даражэюць. Нагадуем — сарвуць цану, перастанем — цана ўгару ідзе. Трымаю пчол; думаю — можа сын пяройме іх ад мяне. Узяўся сын, сабраў мёд, павёз у Беласток раз — не прадаў, павёз другі — не прадаў... І кінуў ён тыя пчолы. І зноўку я каля іх хаджу, бо ж шкада. Прапаную ўнукам, каб прыходзілі на вёску, а яны і слухаць не хочуць. Хто не мае ў сям'і *рэнцістаў*, той не ўтрымаецца. Ідзе да таго, каб толькі апусціць рукі... У *Дом старцаў* будзем старацца, каб на старасць не бачыць, як усё прападае.

— Дачка нам часам спачувае, — кажа жонка Мікалая Ігнацюка, — што нам іх было цяжка гадаваць. А я ёй адказваю, што нам не было цяжка, але ім цяпер цяжка. Калісь, як хто спытаў, як жывецца, адказвалася: „Добра жыву, але сонца не бачу". Бо гнуліся да зямлі, спіною да сонца, працавалі, і карысць з гэтага была. Нават як чаранкі да мятлы рабілі, дык і тыя забіралі. А за аблог на полі, дзе асот завёўся — каралі! А цяпер ад дарогі ў Канюкі якія „кветкі" красуюцца! Ды і тая дарога — жвіроўка, пры камуне пабудаваная. І на грэйдэр тады грошы былі. А цяпер таксама грошы плаціць трэба, а дарога тая, калі дождж нападае — як возера! Пасярэдзіне дарогі ямы, ніхто іх не засыпае, а паабапал, над равамі — лазняк як лес.

Ды не толькі пасяўная ніва турбуе спадара Ігнацюка, грамадская таксама, а першыя тут наракання — на нашу „Ніву".

— Апошнім разам, калі я быў у „Ніве", паспрачаўся з Міравовічамі і Латышонкам, бо лічу, што нельга дрэнна пісаць ні пра Беларусь, ні пра яе прэзідэнта Лукашэнку. Бо ўсё тое, што там адбываецца, мае ўплыў і на наш лёс. І сказаў яшчэ Латышонку, што Балаховіч — гэта не герой наш, а здраднік.

Я ў гэтым месяцы не пайшоў рэдакцыйным „следам за дзедам", бо мае веды пра Балаховіча даволі скупыя. Ды і навошта мне тыя веды! Мудры цар Саламон пісаў, што чым больш ведаў — тым больш турбот (Эклезіяст, 1:18), а Яраслаў Гашак лічыў, што ўсялякія веды толькі шкодзяць чалавеку. Бо што ж з тае навукі, калі на свеце поўна людзей, што ведаюць больш без яе.

— Вы не бачылі, што тут рабілася пасля вайны, таму так і пішаце, — прадаўжаў сп. Ігнацюк. — Пасля тае размовы Міраловіч напісаў такі безасабовы, быццам бы не да мяне, каментарый. І „Ніва" перастала друкаваць мае вершы, для дзяцей... (*Пра друк вершаў для дзяцей не вырашае Мірановіч — рэд.*)

І яшчэ адна справа моцна хвалюе Мікалая Ігнацюка; прасіў наведацца ў Рыбалы спецыяльна дзеля яе. Гэта супрацьпажарнае дэпо. Хто ж з нас не бачыў, хто ж не чуў нашых „Хлопцаў-рыбалоўцаў"; хто не захапляўся імі!! Нашы славутыя спевакі, душою якіх спадар Ігнацюк, заўсёды выступалі ў пажарніцкіх мундзірах. І не толькі на сцэне яны пажарнікі, але і на справе! Назапасілі яны пустакоў і дрэва, каб пабудаваць новае дэпо. І каб камуна яшчэ пабыла крыху, дэпо стаяла б. А цяпер нельга дабіцца для гэтай справы падтрымкі ў Заблудаўскай гміне: у каталіцкіх вёсках будуюць, а ў Рыбалах — не.

У гэтым мінорным настроі з'явілася ж такі і іскрынка радасці. Падчас нашай размовы прысутнічаў унук спадарства Ігнацюкоў, які ў гэтым годзе закончыў Хімічны тэхнікум у Элку. Жыве ён па-за Беласточчынай, у слаўным салдатняй рыфмаванкай Ожышы, якога не абмінулі і мае шляхі-дарогі. Пагутарылі мы, ён і я, ні словам не карыстаючыся дзяржаўнай мовай. А колькі б „тутэйшых" маладых так умелі?..

* * *

Лявон Федарук, як і многія жыхары Рыбалаў, чакаў камбайна. У сваёй вёсцы камбайна няма, трэба ехаць прасіць у суседнія, а то і далей, нават у Кнаразы. Вось мае такі прыехаць недзе пасля поўдня з Войшкаў, але трэба пільнаваць, каб хто дамоўленага не пацягнуў у другую вёску. Мае ехаць суседка, жонка Лявона Федарука мае быць напагатове дома, а сам спадар Лявон збіраецца пакуль што накасіць у тым часе травы. Жыта, два з палове гектара, скасіў ужо раней, салому спрасаваў і пазвозіў, а пожню ўзараў. Стаіць яшчэ тры гектары яравой і азімай пшаніцы і аўса. Збожжа пойдзе на адкорм *апасаў*, бо прадаваць яго куды — гэта *тото-лётэк*: вязеш, а невядома, ці прымуць. Ёсць пяць дойных кароў і тры штукі маладняку. Аднаго *апаса* плануе прадаць у лістападзе, а другога ў сакавіку.

— Пэўна даговор на гэтыя тэрміны з кімсьці маеце? — пытаю.

— Не, — адказае сп. Федарук. — Трымаю да паўтара года, тры месяцы да таго пачынаю карміць, і за той час упасуцца. У папярэднія гады ялавічына добра ішла ад студзеня да жніўня, ано давай, а цяпер застой. Хіба тае *падліны* з хворых кароў з Англіі навалаклі да нас, то і нашага быдла не хочуць браць. Ну, а цяпер з Вроцлава бяруць, бо там не маюць чым карміць. Трымаю кароў, бо малако яшчэ сяктак аплачваецца. Калісь трымаў авечак, але зліквідаваў гадоўлю, бо даўней, калі прадасі воўну, то яшчэ шмат чаго накупіш, а цяпер то нават за яе на білет не возьмеш; шкуры цяпер толькі крыху рушылі. І каня калісь трымаў дзесяць гадоў пасля куплі трактара, сам не ведаю навошта...

Пытаю яшчэ, ці хто ў вёсцы касою або касілкаю збожжа косіць.

— Толькі адзін Апалінскі вязалкаю скасіў, каб пры пагодзе. І я калісь доўгі час вязалкаю касіў, каб мякіны не траціць — гэта ж найлепшы корм. Але няма з кім малаціць, бо возьмеш п'яніцаў з-пад *склепу*, то і не адплацішся з такімі. А касою цяпер накашу толькі каб простую салому мець, свінку сабе абсмаліць.

Развітваюся, гаспадар праводзіць мяне на вуліцу.

— Вось, — кажа, — як праводзілі тэлефон пад вуліцай, паўставу ў асфальце папяровачны жалабок, і як цяжкія *ціры* праз той жалабок праязджаюць, у хаце тэлевізар моргае. Ужо чатыры гады прыязджаюць дарожныя спецыялісты, правядуць тут памеры, і паедуць...

* * *

— А ў нашай хаце, — кажа Канстанцін Харытанюк, сусед з другога боку вуліцы, — святло гасне і хата варушыцца, аж сцены трашчаць. І ніхто гэтага не ладзіць, аж будзе нейкі выпадак.



Фота Уладзіслава ЗАВАДСКАГА

Канстанцін Харытанюк таксама чакае камбайна, хаця ён ужо пенсіянер і „абрабляе" толькі той участак, які атрымаў з пенсіяй, бо зямлю здаў дзяржаве.

— І маю цяпер час, — гаворыць, — бо тыя, што апісалі на дзяцей, самі мусяць цяпер тую зямлю абрабляць; дзеці толькі грошы забіраюць, бо яны — уласнікі.

Мой чарговы суразмоўца ўжо дзесяць гадоў на пенсіі. Калісь, у 1954—58 гадах быў старшынёю Гміннай рады ў Рыбалах.

— Наша гміна была калісь у Бельску, а я быў у вёсцы солтысам. І калі пачалі арганізаваць новыя гміны, мяне паклікалі ў Бельск, ну і мяне павятовы *кадровы* намовіў. Спярша я быў намеснікам старшыні, але старшыня быў *няграматны*, і старшынёю стаў я.

— Чым вы займаліся? — пытаю.

— Падаткамі, абавязковымі пастаўкамі, *скупам*, каб усё датэрмінова было. Усё крычалі: давай збожжа! І склады завалены былі; цяпер вось стаяць пустыя...

— А колькі людзей тады працавала ў гміне?

— Васьмярых: старшыня, намеснік, сакратар, тэхнік, вайсковец, скупшчык і два фінансісты.

— Давялося вам і калгасы арганізаваць?

— Павет паставіў задачу, каб заснаваць калгас у адной вёсцы ў гміне. То я выбраў Рыбалы, бо тут жа найлепей усіх знаў. І гавару ў павеце, што тут *хэнтныя*, бо польскія вёскі крыва глядзелі на калгасы. І мне гэта не падабалася, і ўсё рабіў так, каб тае калектывізацыі не было. Клічуць мяне раз у Бельск і пытаюць, ці ўжо сабраны дэкларацыі. А я ім гавару: „Каб заагітаваць аднаго гаспадара, трэба найменш адзін дзень, бо ж і бутэльку трэба з ім выпіць, каб нагаварыць; і няма калі: у вёсцы ж дзвесце хатаў, мне і году замала, каб дэкларацыі сабраць". І так рабілася, каб гэтых дэкларацый зусім не мець, каб ад іх адчапіцца, бо ахвотных у калгас у нашай вёсцы не было. Але пры камуне добра было. У нас па аўторках і пятніцах *спэнд* быў, сто пяцьдзесят штук жывёлы ў тыдзень бралі, а цяпер то ніводнай часам не возьмуць. І бульбу людзі дарам аддаюць, і ніхто яе не хоча браць, так і ў ямах асталася. І паскардзіцца няма каму... Слабая гэта дэмакратыя. Вось нават Максімюк, мой сусед, намеснік бурмістра ў Заблудаве, не можа дапрасіцца „Бізона" на сваё поле. Ён у Сейм кандыдуе. Калісь перад выбарамі была прапаганда, а цяпер ён баіцца вясці агітацыю; кажа, што такі настрой на вёсках, што страх там і паказвацца.

* * *

„Не думал жить хорошо, но пришлось" — модная цяперака ў нас крылатая фраза. Не думаў і я пісаць тут ніякага каментарыя. Цікавасць, першая ступенька ў пекла, якая калісь вытурыла Еву разам з усімі яе нашчадкамі з раю, разам з генамі дайшла і да мяне і завяла на пляц рыбалаўскага пажарнага дэпо. Ляжаць там прыкрытыя вялікія прызмы пачарнелых ужо дошак і, магчыма выветраных ужо, пустакоў. Побач старога дэпо ідзе неабмежаванае спаборніцтва на Божы свет між крапівою, лебядою і чарнобылем: хто з іх *altius, citius, fortius*. Можа і баіцца ахвотны ў паслы гмінны чыноўнік, каб хто дапытлівы яго не спытаў, ці з Варшавы будзе гэта лепей відаць, чым з Заблудава і Рыбал.

Але нашы людзі і так ведаюць сваё. Слаўны нашчадак нейкага нашага Міцькі калі таму, хіба не пра каго чужога, пісаў:

*Czucie i wiara więcej mówią do mnie*
*Niż mędrca szkiełko i oko.*

І яны гатовы даверыць сваю нацыянальную *дзяржаву* нават самому чорту, абы той толькі нейкім праваслаўнападобенцам быў, каб адно не было там і духу тае Найяснейшае, даверанае пад апеку Прасвятой Дзеве-Каралеве. Яе ж ж жа найзмагарнейшыя рыцары пасляваенных тут злачынцаў лічаць героямі...

„Лепшае мудрае дзіця ад дурнога караля" і „Калі бачыш крыўду і бяспраўе, не дзівуйся, бо над высокім ёсць вышэйшы, а над ім яшчэ вышэйшы цар, добры гаспадар" — пісаў цар Саламон (Эклезіяст, 4:13 і 5:8-9). А святы Іеранім у каментарыі да Эклезіяста пытае, чаму Бог дазваляе на несправядлівасць. І адказвае, што свой суд пакінуў Ён на канец, калі прыйдзе свету пара, калі збожжа даспее. Прыйдуць жняцы і аддзеляць збожжа ад пустазелля, як напісана ў Матфеевым Евангеліі (13:24-30).

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Адзінокія на лавачках

**Вандруючы па вёсках часта сустракаем, асабліва ў святочныя дні, седзячых групкамі на лавачках ля дамоў сялян. Для іх гэта зручная нагода паразмаўляць з суседзямі, адарвацца ад штодзённых турбот. Аднак можна заўважыць на лавачках і адзінокіх, да якіх ніхто не падыходзіць. Гэта самыя старыя людзі, якія ўжо кепска чуюць і бачаць. Аб чым думаюць такія адзінокія старэчы даведаўся я ў Крывятычах.**

— Ой, вы са мною хочаце гаварыць? — здзівілася **Анна КЛІН** — 95-гадовая жанчына, найстарэйшая жыхарка Крывятыч. — Знаеце, да мяне ніхто ўжо не падыходзіць паразмаўляць. Ой, дзякую вам, дзякую. Ужо старая я, не дачуваю, памяці ў мяне ўжо няма...

Непісьменная я. У школу ў Мора пайшла я ў 1912 годзе. Настаўнік быў вельмі дрэнны, нервовы. Помню, што прачытала я яму адну старонку, а ён загадаў чытаць другую. Далей прачытаць я ўжо не ўмела і ён так стаў біць мяне па галаве, што ўсе грабеньчыкі паламаў. Вярнулася я з плачам дадому, усё расказала маме і яна ўжо больш мяне ў школу не пусціла. У школу хадзіла я няпоўны год і таму непісьменнай засталася.

Памагала я бацькам на гаспадарцы, але неўзабаве пачалася вайна, а затым прыйшло і бежанства. Завезлі нас аж за Самару, каля Ташкента. Паехала ўся сям'я: бацькі, тры сястры і брат. Дзве старэйшыя сястры выйшлі там замуж і засталіся. У Расеі памёр бацька. Я там у школу не хадзіла, а толькі працавала — дагляда ла дзяцей. Мама для людзей прала воўну. Брата (ён быў старэйшы за мяне) узялі на вайну і трапіў ён у нямецкі палон.

З бежанства вярнуліся мы ў апусцелыя, абрабленыя Крывятычы. Збабілі гэта людзі з суседняга сяла, якія засталіся. Пайшла я служыць да рабіна ў Орлю. У яго была карова. Са мною служылі дзве дзеўкі з Рудутаў. Мая сястра таксама служыла ў яўрэя, у пекара. Людзі ішлі на работу дзеля кавалка хлеба. Самым галоўным тады лічылася не быць галодным. Сястра часам прыносіла мне булкі.

Прыйшла другая вайна. Потым выйшла я замуж — сама я з Мураўкаў. З'явіліся на свет дзеці. Каля сына Владэка я жыву. Дачка Ліда ў Орлі, а другі сын ажно ў Шчэціне.

І так пражыла я свой век. Цяпер надышоў час паміраць. Майго мужа ўжо даўно няма. І так штодзень: устаю, лягаю і прашу, каб ужо Гасподзь прыбраў мяне, ужо хопіць...

Дзякую вам, што вы са мною пагаварылі, дзякую.

**Запісаў Міхал Мінцэвіч**

# Па грыбы

Я вельмі люблю збіраць грыбы. Вядома, есці іх таксама. Цяпер, калі ёсць пункты скупак лісічак, дык хочацца таксама трохі зарабіць. Баравікі збіраю на ўласны ўжытак.

Я чацвёрты раз ехала па грыбы ў Палічную. Устала ранелька, каб паспець на цягнік, які ад'язджае з Гайнаўкі а 4.45. У вольны дзень на вакзале адчынена толькі адна каса, а падарожнікаў шмат. Білет напалову таннейшы, чым штодзённа, калі бярэш зваротны. Ледзь я паспела яго купіць. У апошнім вагоне знайшла адно свабоднае месца. Усхваляваны мужчына гучна расказваў, як яго пан С. хацеў „набраць" на лісічках: ашукоўваў на 200 грамаў на кілаграме!

— Не можа такога быць, — на згаджалася жанчына. — Са мною на скупцы такое не здаралася.

— Можа ён ведае, каго можна ашукаць. Мяне больш не падвядзе, больш да яго грыбоў не панясу. Пунктаў скупкі грыбоў у Гайнаўцы ёсць нямала.

— А дзе яны яшчэ ёсць? — пацікавілася я.

— За віядукам, на вуліцы Ліпавай. Ведаеце, на грыбах найбольш зарабляюць тыя, хто возіць іх у Нямеччыну. Мой знаёмы казаў, што, калі б нават даў за лісічкі па 25 злотаў, то і так у Нямеччыне зарабіў бы яшчэ 10 марак. Яны зарабляюць, пэўна, 30 марак на кілаграме. Мне здаецца, што, аднак, у гэтым інтарэсе трэба мець грошы і знаёмствы. Нам, шэрым грыбнікам, найгорш: рана ўстанеш, аддасі грошы на білет, стомішся ў лесе, папаходзіш, папазгінаешся... Рады і так кожнаму грашу.

Я бадзялася па лесе аж да адпраўлення цягніка — да 20 гадзіны. У той дзень ужо было позна несці грыбы ў скупку.

На другі дзень, раніцай, калі я занесла свае лісічкі прадаць, сказалі мне, што патаннелі яны на цэлую залатоўку, бо многа іх расце пасля дажджу. Прыйшлося змяніць калькуляцыю.

**Аўрора**

# Хто каламуціць ваду?

Неўзабаве парламенцкія выбары. Пачалася чарговая кампанія, а партыі намагаюцца з'яднаць сабе як найбольш выбаршчыкаў. У гэтых змаганнях палітыкі не зважаюць на правілы этыкі і тады пачынаецца нахабнасць і абкідванне саапернікаў граззю. Доказам гэтаму з'яўляецца паблікацыя штодзёнкі „Życie" аб уяўных кантактах прэзідэнта Квасьнеўскага з агентам КГБ Уладзімірам Алганавым.

Гэту бульварную сенсацыю падхапіла ўжо „Салідарнасць" і Рэспубліканская ліга, якая патрабуе пракурорскага расследавання справы. Старшыня „Салідарнасці" Мар'ян Кшаклеўскі спрабуе нават палохаць, што Польшчы можа пагражаць небяспека, калі ўлада знаходзіцца ў руках такога чалавека, як цяперашні прэзідэнт.

Ці будзе новы палітычны скандал? Час пакажа! На маю думку, гэта звычайны фарс „Салідарнасці" і яе староннікаў.

Чаму якраз перад выбарамі ўчыняецца чарговы скандал? Зразумела, каб пасварыць грамадства! Палітыкі правых груповак, няўпэўнены ў выніках цяперашніх выбараў, кідаюцца, быццам рыба ў сетцы, шукаючы сабе прыхільнікаў. Ці ім гэта ўдасца? Спадзяюся, што не. Грамадства добра запомніла справу былога прэм'ер-міністра Юзэфа Алексага, таму цяжка зараз будзе апазіцыйным палітыкам скаламуціць ваду, на якой знаходзімся. Бо мне здаецца, што мы ўжо выплываем на чыстую ваду.

**(ус)**

## *Адгалоскі*

# Хрысціянскіх паховін чакалі паўстагоддзя

W numerze 32 (2152) „Niwy" ukazał się artykuł Mikoły Wauraniuka zatytułowany „Na chrześcijański pogrzeb czekali pół wieku". W artykule tym między innymi autor zadał mi pytanie czemu tak długo kierowałem członków Społecznego Komitetu Ekshumacyjnego na drogę postępowania administracyjnego. Wprawdzie autor użył innych słów, których nie powtarzam, ale intencja jego wypowiedzi w tym co wyżej napisałem streszcza się bez reszty.

Odpowiedź jest prosta. Nie byłem i nie jestem uprawniony do zajmowania się cmentarzami i w dodatku nie dysponuję środkami finansowymi na ekshumację o czym lojalnie informowałem członków wspomnianego Komitetu. Czy powtarzanie prawdy podpada pod określenie „cynicznej" wypowiedzi pozostawiam osądowi czytelników.

Nie uważam także aby było właściwe użycie przez autora artykułu określenia „naiwnej panienki", na scharakteryzowanie moich zastrzeżeń co do sprawców pozbawienia życia bądź kontynuowanie, aż do całkowitego i wszechstronnego wyjaśnienia, sprawy. Mam nadzieję, że pomoże mi w tym Społeczny Komitet od członków którego uzyskałem już sporo informacji dodatkowych. Uważam, że tajemnica zostanie wyjaśniona po dokładnej analizie dokumentów znajdujących się w archiwach i przesłuchaniu wszystkich dostępnych świadków. Ale to wymaga czasu.

Łączę wyrazy szacunku

**Waldemar MONKIEWICZ**

# Актуальны погляд на мінулае

У 28 нумары „Нівы" (ад 13.07.1997 г.) маю ўвагу прыцягнуў невялічкі артыкул „Позірк у мінулае", падпісаны літарай „Ш". На маю думку, змешчаная там інфармацыя ўводзіць чытача ў зман. Часопісы, аднак, павінны імкнуцца высвятліць аб'ектыўную гістарычную праўду і таму рашыў я ўзяць голас у гэтай справе.

Да выбуху вайны паміж Японіяй і Расіяй 1904—1905 гг. не прычыніўся добры ці дрэнны царызм, ні сам імператар Мікалай II, а толькі Японія, аб чым ведае ўвесь свет. У 1894 годзе Японія пачала вайну з Кітаем і захапіла востраў Тайвань, ды Ляодунскі паўвостраў; у 1932 годзе зноў напала на гэты ж Кітай, у якога забрала Маньчжурыю і стварыла там марыянетачную „дзяржаву" Маньчжоу-Го; у 1937 г. паўтарыла агрэсію на Кітай і на працягу некалькіх гадоў акупавала амаль адну трэць Кітая. Карыстаючыся нагодай (выбухам у Еўропе I сусветнай вайны) Японія 23 жніўня 1914 г. аб'явіла вайну Нямеччыне і заняла нямецкія калоніі на Ціхім акіяне – Караліпскія ды Марыянскія астравы і нямецкі энклаў Цындао на ўзбярэжжы Кітая; у жніўні 1939 г., а затым у жніўні 1935 года, Японія арганізавала ўзброеныя праверкі шчыльнасці граніцы Савецкага Саюза. Найбольш сур'ёзнымі правакацыямі ў гэтай дзейнасці было возера Хасан і рака Халхын-Гол. Восенню 1940 г., карыстаючыся паражэннем Францыі ў вайне з Нямеччынай, Японія ўзяла пад акупацыю французскую калонію Індакітай, а ў нядзелю, 7 снежня 1941 года, без аб'яўлення вайны, напала на амерыканскую марскую базу ў Пірл-Харбары, якой нанесла цяжкія страты і такім спосабам пачалася японска-амерыканская вайна.

У такі сам спосаб Японія пачала вайну з Расіяй 26 студзеня 1904 года. Карыстаючыся тым, што базіруючая ў Порт-Артуры частка расійскага марскога флота адзначала імяніны жонкі камандуючага гэтай базай О. Старка, Марыі Іванаўны Старк, японскія мінаносцы, таксама без аб'яўлення вайны, напалі на гэтую базу і тарпедавалі два навейшыя браненосцы і адзін цяжкі крэйсер. І вось, такім чынам, пачалася расійска-японская вайна, у выніку якой Японія заняла паўднёвую палову расійскага вострава Сахалін. Усе гэтыя войны сусветнае грамадства прызнала агрэсіўнымі з боку японскага імперыялізму, а толькі сп. „Ш" лічыць, што віноўнікам з'яўляецца ахвяра і яе цар.

**Васіль ПЕТРУЧУК**

# Выстаўка бабруйскага мастака

У альштынскай Галерэі мастацтва адкрылася выстаўка акварэлей Аляксандра Пархамовіча з Бабруйска. Гэта яго чацвёртая выстаўка ў замежжы; раней яго працы аглядалі ў Любліне, Германіі і Чэхіі. Аляксандр Пархамовіч, выпускнік бабруйскай Мастацкай студыі і маскоўскай Акадэміі мастацтва, апрача акварэлі займаецца яшчэ графікай і літаграфіяй. Мае таксама і іншыя зацікаўленні, а галоўныя з іх — усходнія віды барацьбы і кітайская прыродная медыцына.

Паказаныя мастаком у Ольштыне пейзажы з'яўляюцца сентыментальнымі выявамі беларускіх лугоў, лясоў, раз'езджаных дарог ды пахілых, крытых саломаю хатаў, ахутаных туманам. У яго акварэлях пераважаюць белы, чорны, чырвоны і карычневы колеры, якія прыдаюць карцінам меланхалічны сум. Перфектна напісаныя, не наводзядь яны аднак прыгнечанасці; дыхаюць яны своеасаблівымі красою і цяплом і захапляюць усіх, маладых і старэйшых, гледачоў.

**Андрэй ГАЎРЫЛЮК**

# Карысныя кнігі

У ліпені можна было купіць у краме ГС у Нараўцы хатні даведнік аб здароўі (*Domowy poradnik zdrowia*). Гэтая вялікая ў прыгожай вокладцы кніга інфармуе як лячыць хатнімі спосабамі ўсе чалавечыя хваробы. Каштавала яна толькі 39 злотаў.

Напісаны даступнай мовай даведнік памагае распазнаць хваробу і прымяняць падставовыя лякарствы. Лёгкахворыя, чытаючы гэту кнігу, узбагацяць свае веды аб тарадыцыйным лячэнні.

Вясной і летам у кніжных крамах можна было за 6 злотаў набыць вельмі цікавую брашуру Пятра Левандоўскага *Samoleczenie metodą BSM*. Гэты метад можа прымяняць кожны хворы сам у сябе дома. Адпаведна да кожнай хваробы прыкладаецца далонь да галавы ў акрэсленым месцы. Аўтар падае 8 пазіцый і ілюструе іх рысункамі. У канцы брашуры чытаем пісьмы людзей, якія вылечыліся і дзякуюць аўтару.

Метад *BSM* — гэта штосьці новае ў медыцыне!

Варта мець у сябе на паліцы такія кнігі!

**(міква)**

Якія мы людзі

# Доля лебядзіная

Пачнем ад сабакі. Сапраўды салодкая гэта істота. Нездарма гавораць: верны, як сабака. А хто ж не хацеў бы мець без рэшты адданага сябра?! Такога, што прылёг бы побач, прытуліўся, палізаў бы свайго пана языком, а як сумаваў бы, калі б гаспадары выйшлі вечарам у госці...

Але найважнейшае: сабака абараніў бы хату ад няпрошанага госця, а гаворачы канкрэтней, ад зладзеяў. Дзіва! Кажуць, няма лепшай гарантыі ў гэтай справе, чым сабака. Ну, і як тут не любіць свайго гадунца, пяшчотку гэту... Мала хто ўжо сёння сабакі не мае. А хоць бы сабе і ў блёку. Калі трэба, наробіць такога тарараму, што той злодзей дзесятаму закажа.

А што лебедзь?! Прыгажосць для прыгажосці. Жыве вось істота, а чалавеку што з таго?..

Але ж дзецям ці растлумачыш гэта? Як толькі яны заўважылі, што на стаў, дзе яны штодзень купаліся, пачала аднекуль прыплываць лебядзіная сямейка, дзецi пачалі апекавацца ёю.

Наперадзе заўсёды плыў вялікі белы лебедзь. Гэта быў лебедзь-бацька. За ім — роўненькім шнурочкам — сямёра яшчэ шэранькіх лебядзянятак. Замыкала гэта велічнае шэсце клапатлівая лебядзіха-мама, якая разглядалася то налева, то направа, пільна сочачы за тым, каб яе дзіцятка нікуды не збочыла, каб трымалася таго шнурочка. Калі лебедзі адплывалі, іх мама чакала, пакуль не стануць у радок усе яе дзеці, і толькі тады, спакойная, плыла за імі.

У сталоўцы дзецям раптам пачало бракаваць хлеба. Яны пачалі прасіць афіцыянтак, каб прыносілі яго больш, а нават хадзілі да кухаркі, прымільна глядзелі ёй у вочы і, не хочучы ашукваць яе, казалі: гэта лебедзяняткам.

На ставе адны дзеці кідалі хлеб у ваду, іншыя ж карміл лебедзяў з рукі. Усе ўжо прывыклі да таго, што пасля снедання, якое заканчвалася ў сталоўцы а дзевятай, гэтыя прыгожыя водныя птушкі прыплывалі да дзяцей. І дзеці — тыя, якія ведалі пра тое, што лебедзі знаходзяцца пад аховай, ды тыя, што нават не чулі пра гэта — інтуітыўна — шанавалі птушак за іх каралеўскую прыгажосць, велічнасць і спакой.

Была пагодная, гарачая нядзеля. На траве ля става адпачывалі ледзь не ўсе прыехаўшыя адпачываць у гэтую мясцовасць. А і тутэйшыя прыйшлі, ды нават з недалёкіх Сувалак многа людзей даехала.

Раптам на пляжы паявіўся чалавек з нямецкай аўчаркай. Вялізнай, страшнай. Гаспадар сабакі зняў з яе аброжак і як бы ні ў чым не бывала пусціў яе ў ваду.

Аўчарка ўмомант разагнала дзяцей. Перапалоханыя, расплыліся яны ў розныя бакі, абы далей ад гэтага звера. О-о-о! Некаторыя добра памяталі, як у мінулым годзе такая ж аўчарка выгрызла на пляжы кавалак сцягна ў загараючай жанчыны.

Адсунуліся дзеці ад страшыдла ўмомант і пачалі плаваць далей, у іншым месцы, не там, дзе плавалі заўсёды. А пан аўчаркі задаволены. Цешыцца, што хутка знайшоў месца для свайго любімчыка, разагнаўшы дзяцей. Бавіцца з аўчаркай, быццам менавіта яна — пуп свету. „Апорт!" — крычыць ён свайму гадунцу, кідаючы палку ў ваду, а той, ашчэрыўшыся, кідаецца ў вір і вяртаецца, верны служка, з палкай у зубах для свайго дабрадзея.

Так яны гулялі — пан і яго аўчарка — не зважаючы на нікога і нічога. Дзеці, аднак, у пэўным моманце ўбачылі, што да іх старога месца падплывае знаёмая лебядзіная сямейка. Плыла яна спакойна на тое ж месца, куды прыплывала заўсёды, не прадчуваючы таго, што сёння там чакае іх не дзіцячае цяпло і шчырасць, а злавесны сабака.

Лебедзь — птушка даверлівая. Адкуль жа ёй ведаць сабачы характар?! Плавае сабе па ціхай вадзе сярод іншых водных птушак — чаек, кармаранаў, дзікіх качак — і ніхто тут нікому не перашкаджае, ніхто да нікога не кідаецца. Вады ўсім хопіць! А і ежа як-небудзь знойдзецца.

Так плыла сабе лебядзіная сямейка ў сваёй стыхіі, па вадзе, дзе сабак наогул не бывае. Падплыла бліжэй да берага і затрымалася ў недаўменні. Дзяцей няма, а іх месца занялі сабака і яго пан. Бавіцца палкай.

Затрымаліся лебедзі, выцягнулі шыі і прыглядаюцца. Перашкаджаюць аўчарцы і яе гаспадару гуляць у палку. „Ву-о-о-н!" — зароў пан. „Рр-р-рр!" — глянуў на іх грозна сабака, лянуючыся нават забрахаць. У вадзе так добра, ахалоджвае яна, супакойвае...

Дзеці былі падумалі, што ёсць момант, каб кінуць лебедзям хлеб, і падбеглі бліжэй, але пан аўчаркі так сыкнуў на іх, што яны, нічога не разумеючы, уцяклі.

А лебедзі быццам замерлі. Усе стаялі на той вадзе, быццам на нейкім халтурным абразку, і спаглядалі здзіўлена на аўчарку — дзіўнага госця іхняга возера.

Ну не! Не будзеце вы мяне нерваваць! — цярплівасць гаспадара аўчаркі скончылася. Выйшаў ён з вады, назбіраў на беразе чым большых камянёў і пачаў кідаць іх у лебедзяў.

Што было рабіць лебядзінай сямейцы?! Адплыла яна ў пошуках новага месца, дзе купаліся спагадлівыя дзеткі. Эх ты, доля лебядзіная...

Аўчарка са сваім панам купаліся, распырскваючы навокал вялізныя фантаны. З асалодай карысталіся вадой і сонцам. І мне падумалася, што, пэўна, у сённяшнія часы так і трэба.

**Ада Чачуга**

## *Парнасік*

### Усходняя сцяна

Каб „усходнюю сцяну"
Нам падратаваці,
На паслоў беларусаў
Трэба выбіраці.
Можа зробяць штось яны,
Да чагось даб'юцца
Тады можа і ўлады
Нашай „сцяной" займуцца.
Тут рабочы жыве люд,
Праца іх стамляе,
Але часценька яму
Нехта ногу падстаўляе.
Да таго трэба дайсці
Ды за штось узяцца,
Каб „усходняю сцяной"
Усе маглі радавацца.
Наша „ўсходняя сцяна"
Ўсім нам дарагая,
Хто калі тут пабываў,
Добра аб гэтым знае.
Прыязджайце нас наведаць
Улетку і ўзімку
Чысценькае паветра ў нас
Без серы і цынку.
Яшчэ раз я вас прашу:
Будзьце з галавою,
Беларусаў выбірайце,
А стаяць будуць сцяною!

**Мікалай Лук'янюк**

### Рукі нашы, рукі

Рукі нашы, рукі,
Не страшны ім мукі.
Робяць усё ў падрад,
Бо такі ёсць лад.
Робяць вельмі многа
І сцеліцца дарога.
Адны рукі гаруюць,
Другія — жывата пільнуюць.
Рукі мужыка, рабочага
Не бачаць многа харошага;
Адны толькі работы, заняткі,
Бо такія парадкі.
Ёсць рукі залатыя,
Асаблівыя і дарагія —
Зробяць усё, што вочы ўгледзяць,
А таксама пры нагодзе прымецяць.
Ёсць белыя рукі вучонага,
інтэлігента —
Яны робяць у паперах
бюракратыю і нешта канкрэтнае.
Ёсць рукі, што ствараюць зброю,
Каб весці вайну і гатовіцца да бою.
А ёсць рукі, якія здольныя
чужое ўхапіць
І з пакражы, гультайства жыць.
Найлепш мець рукі чыстыя
і сумленныя,
Тады будзем усе шчаслівыя
і мудрыя.

**Мікалай Панфілюк**

### Вярніся

Вярніся да мяне назаўсёды.
Усё благое табе дарую.
Вярніся, калі падае дождж.
Буду табе парасонам.
Вярніся ў ледзяную пару.
Сагрэю цябе сваім цяплом.
Вярніся ў летнюю спёку...
Будзе нам радасць і сум.

**Аўрора**

## ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Сніліся мне цікавыя сны, але не сказаць, каб у тую ноч і раніцай было мне надта весела.

Спачатку я была на нейкім прадстаўленні. Нібы не было гэта ў тэатры, тэатра не бачу, але я ўпэўнена, што быў гэта нейкі спектакль. Людзі апранутыя ў старадаўнюю вопратку — доўгія сукенкі, надта багата вышываныя.

Я з гэтага прадстаўлення выходжу на вуліцу. Шукаю дарогу, куды і якую — не ведаю. Раптам аказваецца, што я лячу на нейкай ракеце па цэнтральнай вуліцы Мінска. Ляціцца мне лёгка, але ракета гэта вогненная, навокал шугае полымя. Лячу па вуліцы, якая перарэзвае горад з поўдня на поўнач. Нават мне не надта страшна. Лячу на вышыні правадоў, але мая ракета-самалёт за іх не зачапілася.

І раптам я знаходжуся ў турме. Я не сяджу там, але яе бачу. Тут ходзяць страшныя людзі, не магу глядзець на іх твары-муміі, якія быццам бы ў белых масках.

Мяне з гэтай ракеты падаюць гэтым людзям. Яны бяруць мяне даволі беражліва, як дзіця. Я ў нейкім мяшку.

Дальбог, наснілася сорак бочак арыштантаў. І што з гэтага будзе, га, Астроне?

**Вера**

Вера! Тэатр ці спектакль, які ты бачыла — гэта нейкі фальш, няшчырасць ад блізкіх табе людзей. Манюкі тваё сябры.

Наогул лётаць у сне абазначае, што споўніцца нейкая твая надзея, будзе поспех у справах. Але ж ты лётала ў вогненнай ракеце, дык, мяркую, што пакуль тая надзея споўніцца, будзе цяжка (мо дзякуючы тваім сябрам?).

Бо і турма прадвяшчае багацце, мір і дабрабыт, але ж ізноў... тыя людзі, нібы ў масках на твары. Яны сведчаць аб падмане з боку нібы надта блізкіх табе людзей. Ты іх пераможаш.

**Астрон**

## Двухлітарная крыжаванка

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. Дэні, французскі энцыклапедыст (1713—84), 3. напр. Нарач, 5. загадчык Берыі, 7. левы прыток Волгі, 9. духмяная расліна, 10. кнігі з абавязкамі царкоўнаслужыцелей падчас ютрані, абедні і вячэрні (мн. лік), 11. царкоўнаслужыцель, 12. насціл з дошак для спання, 14. старадаўняе верхняе адзенне ў выглядзе доўгага шырокага плашча, 16. малодшае воінскае званне, 17. чаранок з пупышкамі для пасадкі.

**Вертыкальна:** 1. невялікая адтуліна, 2. павелічэнне ў памеры, развіццё, 3. адзін у полі не ...., 4. рэактыўны снарад, 6. зорка, альфа Цяльца, 8. грыб са слізкай шапкай, 9. адходы пасля абмалоту, 11. бандарны выраб. 13. жалабок для сцёку вады, 14. бледны шклопадобны каштоўны камень, 15. кругавая ў Яна Чыквіна. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 29 нумара**

**Гарызантальна:** кашалі, сяліба, трапло, тэма, біла, Любамірскі, біта, ніша, ракада, ангіна, карнет.

**Вертыкальна:** каратэ, літр, сяло, Бачыла, аптымістка, Малюта, Бікіні, біплан, шарбет, рана, Дака.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

*Ніва*

**„Niwa"**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міраловіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі). Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1997 r. upływa 5 września 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка

## Лексікон сужонскага бізнесу

Цнота — капітал.

Першы мужчына ў жыцці жанчыны — зыходны баланс.

Першая жанчына ў жыцці мужчыны — пункт узнікнення расходаў.

Раман з сяброўкаю — удзел у іншым прадпрыемстве.

Шлюб — доўгатэрміновае абавязацельства.

Заручыны — кароткатэрміновае абавязацельства.

Муж — трывалыя сродкі.

Пасаг — планавыя прыбыткі.

Пасляшлюбная ноч — перавод капіталу ў інвестыцыю.

Дзеці — вырабы ўласнай прадукцыі.

Пазашлюбныя дзеці — нефактураваныя дастаўкі.

Цяжарная сяброўка — замясцовыя інвестыцыі.

Аліменты — пазапланавыя расходы.

Калега жонкі — дабравольныя складчыны.

Жонка на адпачынку — перапрацоўка паўфабрыкатаў.

Падарак сяброўцы — расходы на арандаваныя аб'екты.

Утрыманне сяброўкі — арэндная плата.

Развод — чысты прыход.

Труна — аднаразовая ўпакоўка.

## Добрыя рады кавалеру

Не трэба жаніцца з:

— тэлефаністкай (просіць канчаць у тры хвіліны),

— прадаўшчыцай (просіць заплаціць),

— лекаркай (просіць наступнага),

— настаўніцай (просіць паўтарыць яшчэ раз).

**Даслаў Андрэй ГАЎРЫЛЮК**

## Думкі ў час мігрэні

* На тым свеце мусіць быць вельмі добра; ніхто ж з яго не вяртаецца.

* Ці мяне, якога штодня кроў залівае ад назірання за рэчаіснасцю, можна палічыць пацярпеўшым ад паводкі?

* У жонак п'яніц колер вачэй таксама чырвоны!

* Сцвярджае, што жыццё гаўнянае, дык чаму ён усё яго смакуе?

* Жанчыны мераць вартасць мужчыны таўшчынёй яго пуляраса.

**Пётр Байко**




*Мал. М. ГІРГЕЛЯ*

## Тэлефонная размова

— Так, слухаю, — мякка сказаў я ў тэлефонную трубку, але ўся мая ўвага была скіравана да тэлевізара, — прасцічка Марыя выціралася анучай для мыцця падлогі.

— Паклічце, калі ласка, Валодзю, — ветліва папрасілі на другім канцы дрота.

— Такіх тут няма, — узрадавана адказаў я: новая відэакасета была з гумарыстычнай „клубнічкай".

— Дзынь! — зноў паклікаў тэлефон.

— Лёшу, калі ласка, ветліва папрасіў усё той жа голас.

— І такіх тут няма, — раздражнёна адказаў я — касета аказалася з „запілам".

— А хто ёсць? — нахабна дапытваўся абанент.

— Я ёсць, — разгублена вымавіў я і, раззлаваўшыся, закрычаў: — Дык, што табе трэба?

— Прабач, друг, панібрацкі, — як пароль вымавіў абанент. — Разумееш, у мяне запісаны нумар у тэлефоннай кніжцы, а вось чый гэта нумар не пазначана. А раптам гэта нумар спонсара? Або даўжніка?!

— Ну і што? Цяпер будзеш па ўсіх імёнах правяраць! — усміхнуўся я.

Крыху памаўчаўшы, суразмоўнік спытаў:

— Ды дзе мы маглі абмяняцца нумарамі? У начным клубе?

— Я па гей-клубах не хаджу, — з'едліва сказаў я.

— Я пра начны клуб „Бураціна", — крыўдліва паправіўся абанент.

— А я хаджу ў клуб „Канстанцін", — прызнаўся я. — Па серадах і пятніцах.

— Тады ў казіно? — не адставаў суразмоўнік.

— Ну-у, у суботу я ў „Троіцы", а ў нядзелю — у „Чацвёрцы цыгам" — шчыра разгаварыўся я.

— А якім рэстаранам аддаяце перавагу? — пунктуальны абанент не адставаў.

— Слухай, мужык, ты мяне дастаў! — надакучыла мне. — Розным, зразумела, розным! Кожны дзень па іх сланяюся!

— Ну прабач, друг, — у трубцы трывожна затахкалі гудкі.

Ноччу маю кватэру абчысцілі.

**Амір ДАУТАЎ**

*Пераклаў з рускай мовы Валерый БАБЕЙ*

## Скажам праўду

Размаўляюць дзве сяброўкі.

— Падабаюцца мне мужчыны, пахучыя добрым адэкалонам...

— А мне больш даспадобы тыя, што пахнуць грашыма!

* * *

— Чаму вы дамагаецеся разводу, хаця самі кажаце, што муж штодзённа прыносіць вам да ложка сняданак?

— Так, прыносіць, але робіць гэта а трэцяй гадзіне раніцы.

* * *

— Падазраваю, што мая жонка здраджвае мне з адным баксёрам.

— А-я-яй! І што ты думаеш зрабіць?..

— Сказаў бы я яму, што думаю на гэтую тэму, ды, на жаль, няма ў яго тэлефона.

* * *

— Мой Адам — проста вулкан! — расказвае Нінка сяброўцы пра свайго мужа.

— Што, такі гарачы?

— Не, эрупцыя ў яго два разы ў год.

* * *

Пасажыр уваходзіць на палубу карабля.

— Ці гэты Ноеў каўчэг ужо поўны? — іранічна пытае капітана.

— Папраўдзе не хапае нам яшчэ толькі асла.

* * *

— Казік! Я чуў, што ў тваe жонкі аж трох каханкаў! І як ты такое цярпіш?

— А што ж мне рабіць... Яны ж маюць нада мною перавагу...

* * *

Мастак малюе акт прыгожай дзяўчыны. Раптам кідае пэндзаль і бярэцца горача цалаваць натуршчыцу.

— Вой, вы гэтак робіце з кожным сваім мадэлем?..

— Не, вы першы, які выклікаў у мяне такую страсць.

— А што вы ўжо пісалі з натуры?

— Нацюрморт, кветкі і партрэт майго дзядулі.

**(лук)**

## Сардэчныя ТАЙНЫ

Сэрцайка! Пішучы табе, хачу папярэдзіць усіх дзяўчатак, якія аддаюцца каханым хлопцам, што ў жыцці пасля бывае па-рознаму.

Свет здаваўся мне цудоўным, а людзі добрымі, калі я паступіла ў цяжка даступную вышэйшую школу. Мне думалася, што я пераступіла найвышэйшы парог у сваім жыцці, а ад гэтага часу ўжо ўсё пойдзе, як па масле.

Можа, занадта паверыла я ў сваё шчасце і не спадзявалася ад жыцця ніякіх прыкрых неспадзяванак. Ужо ў першым семестры я пачала хадзіць са сваім аднакурснікам. Ён унушыў мне, што толькі старамодныя паненкі чакаюць вяселля, каб пачаць палавыя зносіны. Сучасная дзяўчына з гэтым праблем не робіць! А, зрэшты, калі ж кахацца па-людску, калі ўсю маладосць чалавек усё вучыцца, ды вучыцца?! На старыя гады?!.

Так ён гаварыў, але гаварыць не мусіў, бо я і так кахала яго першым моцным пачуццём і гатова была зрабіць для яго ўсё.

Калі я аддалася яму, дык была ўпэўнена, што і ён адчувае ў адносінах да мяне тое, што я — у адносінах да яго. Я нічога не баялася, бо была моцная яго каханнем і не чакала, што над маім жыццём пройдзе навальніца.

Я вельмі хутка зацяжарыла. Не спадзявалася, што ўсё гэта можа здарыцца так проста. Спачатку думала, што нешта не ладзіцца з менструацыяй: то была, то не было. Калі вырашыла пайсці да лекара, быў ужо чацвёрты месяц. Я сказала пра ўсё свайму хлопцу. Нават не дапускала такой думкі, што ён не ўцешыцца. З дзіцём праблем мы не мелі б, бо ахвотна ўзяліся б яго выхоўваць, пакуль мы не скончым вучобу, мае бацькі.

Калі мой хлопец пачуў гэту вестку, дык аж пашарэў на твары. Як гэта магло стацца? Пэўна, гэта не маё дзіця — ці ж мала ў цябе кавалераў?!. У маім горле засеў нейкі камок, і слёзы так і паліліся з маіх вачэй.

Што было рабіць? Хлопец сказаў мне, што жаніцца пакуль што не збіраецца, пачаў уцякаць ад мяне, быццам ад нейкай заразы. Мы перасталі сустракацца. Мае бацькі, бачачы маю роспач, вырашылі дзейнічаць. Знайшлі адрас бацькоў хлопца, паехалі ў той горад. Тыя нічога не ведалі, а даведаўшыся, выклікалі сына. Наш унук не будзе бадзяцца па свеце, сказалі яны рашуча!

І так мы згулялі вяселле. Неўзабаве я нарадзіла хлопчыка. Божачкі, куды падзеліся мужавы пачуцці? Увесь час ён паводзіў сябе, як пан, як чалавек, які зрабіў мне страшэнную ласку, нягледзячы на тое, што дзіця выхоўвалі мае бацькі. А я так хацела, каб у дзіцяці быў і бацька.

Калі дзіця пайшло ў школу, нешта яму зрабілася, пачаў усё губляць, забывацца. Я працавала ў добрай фірме і мела высокія заробкі. Грошай не шкадавала на лячэнне, але нічога не дапамагло. Сынок памёр ва ўзросце васьмі гадоў.

Я перажыла кашмар. Мой сын, якому я прысвяціла частку свайго жыцця, не жыве. І мужа, можна сказаць, няма. Увесь час ён паводзіў сябе, быццам кавалер: бабкі ў яго змяняліся часцей за рукавічкі. Яго ж, мауляў, ажанілі сілком... Аднак жа добра было карыстацца жончынымі грошыкамі, прагульваць незаробленае.

Каб крыху супакоіцца, мы паехалі адпачыць на мора. Бачу — і там ніяк мой муж не можа ўгаманіцца. Ну, тады і маё збалелае сэрца прыгарнулася да аднаго маладога чалавека. Колькі ж можна цярпець!

І тады ў майго мужа адкрыліся вочы. Стаў раўнівы, не мог перанесці, калі бачыў побач са мною таго чалавека. Не выпускаў мяне адну нават на пляж, але я ўжо яго не слухала. Годзе быць у няволі.

Аднойчы пайшлі мы ў кавярню, я кажу там: або зменіш свае паводзіны, або я адыходжу. Сказала я гэта катэгарычна, спакойным тонам.

Мо затрымалі яго мае грошы, а мо тое, што я перастала быць яго рабыняй. Цяпер ёсць у нас другі сынок, а займаецца ім найбольш мой муж. Але адцярпела я.

**Ёля**

Ёля! Грошай яму таксама, пэўна, было шкада, але найбольш шкада было сям'і, да якой паспеў ужо прывыкнуць і без якой жыцця сабе ўжо не ўяўляў. Не мог ён дапусціць да сябе думкі, што іншы мужчына будзе жыць побач з табой.

**Сэрцайка**